PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 49 (1908) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 6 СНЕЖНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## І АД НАС ЛЮДЗІ БЫЛІ Ў ЗАЛЕШАНАХ

Яшчэ раз прачытаў я артыкул Яна Максімюка „Трава забыцця". Раней ён друкаваўся ў „Ніве" (н-р 34, 1991 г.), цяпер перакладзены на польскую мову паказаўся ў „Часопісе". У Дубічах-Царкоўных жыве адна ахвяра трагедыі ў Залешанах, пра якую піша Ян Максімюк. Гэта Ганна Тамашук, родам з вёскі Грыгораўцы. У 1943 г., калі ёй было 18 гадоў, выйшла яна замуж за Рыгора Леанюка з Залешанаў. Пражылі яны разам толькі тры гады, дачакаліся двух сыноў і сталася... У вёску прыйшлі „рыцары" „Бурага" — Рамуальда Райса. Усё так і было, як апісаў Ян Максімюк. Хата Ганны і Рыгора Леанюкоў была недалёка хаты Сахарчукоў, дзе загналі жыхароў вёскі. Яны самыя туды не папалі. Рыгор схаваўся на гарышча, калі ў вёску ўвайшлі партызаны, а Ганна была на панадворку і таму пражыла.

Калі пачалі паліць вёску, Рыгор скочыў з гары ў сені, схапіў старэйшага сына (малодшы згарэў) і пачаў уцякаць на панадворак. Адзін з бандытаў пусціў за ім чаргу з аўтамата. Рыгор жыў яшчэ некалькі хвілін, а яго сынок згінуў на месцы.

Ганна асталася ўдавой у 21 год, страціла мужа і двое маленькіх дзетак. Вярнулася да бацькоў у Грыгораўцы, дзе яе прымусілі яшчэ раз выйсці замуж за Мікалая Тамашука з Дубіч-Царкоўных, які быў на 25 гадоў старэйшы за яе. Зямлі ў Тамашукоў было многа, працы яшчэ больш. Ганна нарадзіла яшчэ трое дзетак, якія ёсць яе ўсім шчасцем, якога дачакалася ў сваім нялёгкім жыцці. Нядаўна Ганна пахавала свайго мужа Мікалая. Было яму 93 гады.

У Залешаны ў той страшны момант папаў яшчэ адзін жыхар Дубіч-Царкоўных, Міхась Марчук. Забралі яго з нашай вёскі, калі праз яе праходзіла войска „Бурага". Разам з жыхарамі Залешанаў зачынілі яго ў хаце Сахарчукоў, але быў ён адным з тых, якім удалося ўцячы з агню праз дзверы, якія адкрыў адзін з партызанаў. Бывае і так, што нават сярод злачынцаў трапляюцца добрасумленныя людзі.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК



### ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ!

Калі Вы не паспелі падпісацца на „Ніву" на I квартал 1993 года, можаце гэта яшчэ зрабіць у нашай рэдакцыі. Рэдакцыйная падпіска ў краіне (разам з пастаўкай па пошце) каштуе 52000 злотых. Грошы просім пералічваць на рахунак: Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

**Падпіска ў рэдакцыі — гарантыяй тэрміновай пастаўкі!**



## У ГАРАДКУ НА БАЗАРЫ

- У Гарадку школа, базар, царква, кнайпа - усё ў адным месцы. Бяда, кажуць людзі. Калі не было яшчэ гэтага базару, - сказаў мне адзін дзядзька, - то мы маглі сваё прадаваць. Цяпер жа яны /рускія/ забіраюць нашы грошы. Шмат іх прыязджае. Сёння быў прыехаў адзін аўтобус, але не было ўжо яму месца - папёр у Міхалова.

Сярод рускіх усялякія трапляюцца. Часамі замест гарэлкі можаш і нафту купіць. Аднойчы я бачыў, — цягнуў дзядзька, — як мае знаёмыя купілі гарэлку, адышлі за малачарню, раскруцілі бутэльку, а там... нафта. Калі вярнуліся на базар, гэтага, што ім гэта прадаў ужо не было.

Пытаецца, як цэняць? А ўсяляк. Заменжны спірт найчасцей па сто тысяч. Але памятаю, як аднойчы прыехаў цэлы аўтобус маладэчы. Хлапчукі па 16-17 гадоў, ну пісталеты, па-нашаму гаворачы. Спачатку цанілі па сто, але як трэба было ўжо ад'язджаць - давай па 80, а нават па 70 тысяч.

*- Базар пабудавала гміна. Пэўна мясцовыя ўласнікі крамаў скрыгаюць зубамі на тых з гміны?*

- Скрыгочуць, і то яшчэ як - збыту ім няма.

Каньяк у Гарадку /паўлітра, армянскі/ можна купіць па 55 тысяч. Гарэлка /паўлітра, у бутэльцы з-пад піва/ 35 тысяч. Спірт /літр, заходні/ - 100 тысяч. Пшанічны спірт /паўлітра, лячэбны, пакаштаваць можна на месцы/ - 60 тысяч. Апрача алкаголю шырокі выбар тавару - ад елачкі да прэзерватываў. Бяда.

А. МАКСІМЮК
Фота аўтара



## НЕ ВЕДАЕ І МУЖ ВУЧОНЫ...

У "Ізвесціях" № 244 ад 7 лістапада я з зацікаўленнем прачытала артыкул "Расія закрывае свае межы". Рускі палітычны аглядальнік заклапочана сцвярджае: "Парадокс сённяшняй нашай сітуацыі заключаецца ў тым, што ні прафесіяналы-пагранічнікі, ні вучоныя мужы не могуць даць выразнага акрэслення паняццю "дзяржаўная мяжа Расіі". Цытуе ён "палкоўніка Баранава і яго калег": "Расія мае сёння некалькі тыпаў граніц. Да першага **яны адносяць** (мае падкрэсленне - М.Л.) тыя, што супадаюць з рубяжамі былага Саюза, а большая частка якіх зацверджана міжнароднымі дагаворамі. Да другога - адміністрацыйныя, яшчэ не афармленыя як дзяржаўныя, межы з краінамі СНД. І нарэшце тыя, што раздзяляюць Расію з дзяржавамі, якія не ўвайшлі ў састаў СНД".

Ні прафесіяналы ў зялёных фуражках, ні мужы вучоныя не ведаюць, калі гэта ўсё акрэсліцца, бо адкуль ім ведаць, як хутка справы "пойдуць", а тым больш адкуль ведаць гэта простаму чытачу шматтыражкі ў дзень, які ўжо перастаў быць дзяржаўным вялікім святам? А як адчувае сябе ў гэты дзень звычайны "рускі" чалавек, будзь ён "беларусам" ці "армянінам" ці іншым савецкім чалавекам, які затраціў свае карані, але ў душы якога яшчэ блукае пачуццё магутнасці сваёй і свае краіны і праведнасці таго, чаму яго вучылі?

Роўна год таму, якраз "на рэвалюцыю" ў Менску на цэнтральным аўтобусным вакзале паненка з касавага ваконца на мае беларускія словы ўскіпела: "Слушай, ты, ты раньше научись разговаривать на нормальном языке, а потом приходи покупать билет в м о ю кассу!" На мой перапалох, што, можа, яна аглухла і не чуе, што я ёй гавару на дзяржаўнай беларускай мове ў беларускай сталіцы, "рюская" дама заплявалася: "Ч а в о? Понаезжала вас всяких с этих деревень, отбою нет!!!" Да таго ж мяне рассмяшыла (не гавару аб жаху ад нечаканасці і нахабнасці) яе фанетыка: "Чаво!" Я, як русістка, магу выдатна размаўляць па-руску, і то намнога лепш за яе, але буду гэта рабіць у Пецярбурзе, у Маскве, і ў Беластоку; а таксама і па-англійску, з людзьмі, якія не ведаюць маёй мовы, а ведаюць гэтую. Магу і ў Менску. Мова не прызнае межаў. Не мае межаў, як і дух, і літаратура. Мой ёсць Дастаеўскі, і Чэхаў, і Бунін, і Пушкін, і Талстой. І Шэкспір, і Хемінгуэй. Гэта і мае а б ш а р ы.

Так, не мае межаў мова. Толькі няхай растлумачаць гэта "вучоныя мужы", якіх "вумную" прысутнасць адчувае за сваімі плячыма малаадукаваная паненка ў сталіцы незалежнай Рэспублікі Беларусь. Але ці яны змогуць "даць выразнае акрэсленне паняццю"?..

МІРА ЛУКША

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Mickiewicz nie był ani Litwinem, ani Białorusinem, ani Rosjaninem, ani Żydem, choć jakaś tam różna krew w nim była. Mickiewicz był Polakiem z własnej woli i nikt nam Jego nie wydrze.*
*(Polityka, nr 47)*

**Са свайго боку дэкларуем, што дзерці яго не будзем.**

* * *

*Socjalizm jeszcze ożyje.*
*(Polityka, nr 47)*

**Беласточчына не сумняваецца ў гэтым.**

* * *

*Każda polska, zakompleksiona kobieta po 24 godzinach pobytu w Sejmie pozbywa się kompleksów do końca życia. Tam doprawdy wszystko ma szansę, co nie jest mężczyzną. To się natychmiast wyczuwa, to napięcie erotyczne, które panuje w tym gmachu, jest niesłychane.*
*(Polityka, nr 47)*

**Калі прымуць закон супраць абортаў, то, магчыма, трэба будзе дабудаваць да гэтага гмаху дзіцячыя яслі і садзік.**

* * *

*Podczas uroczystej nominacji generałów w Belwederze nagle zgasło światło. I wtedy w mroku rozległo się pytanie: Czy na sali jest elektryk?*
*(Polityka, nr 47)*

**Быў — мы самі бачылі ў тэлевізары.**

* * *

*42 procent palaczy zapala rano pierwszego papierosa w ciągu półgodziny po obudzeniu się.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 272)*

**Людзі ўжо даўно ўпэўніліся, што „papieros z rana szkodzi nie więcej niż śmietana", асабліва тая з нашых крамаў.**

* * *

*Буду рабіць усё магчымае, каб захаваць СНД — сказаў прэм'ер Беларусі Вячаслаў Кебіч.*
*(Народная газета, н-р 224)*

**Надзея цяпер толькі ў тым, што на Беларусі нічога немагчыма зрабіць.**

* * *

*Мальтийские масоны как главы Республики Беларусь?*
*(Народная газета, н-р 224)*

**Мы — за, а нават супраць.**

* * *

*Беларусі патрэбна надзейнае войска.*
*(Свабода, н-р 9—10)*

**А што – Савецкая Армія ўжо безнадзейная?**

* * *

*У Лідзе кажуць: Лідскае піва — восьмы цуд свету.*
*(Свабода, н-р 7—8)*

**Так, адзінае піва на Беларусі, якое не разбаўляюць вадою.**

* * *

*Jarocin to takie małe miasteczko, w którym zastaliśmy bardzo dużo młodzieży o różnej subkulturze.*
*(Co słychać w gminie, nr 13, Kleszczele)*

Kleszczele to takie małe miasteczko, w którym wydaje się gazetkę z tekstami o różnej (językowej) kulturze.

* * *

*— Zocha, ściągaj majtki! Ja wyciągam gumę! — rozkazuje czterolatek koleżance.*
*— Cudownie! Ale po co?*
*— Zrobimy procę!!*
*(Co słychać w gminie, nr 14)*

**Далей праз тыдзень.**

# З мінулага тыдня

**Амаль 500 мільёнаў долараў**, з мільярднага стабілізацыйнага фонду, вырашылі прызначыць на рэструктурызацыю і прыватызацыю польскага фінансавага сектара сем з ліку семнаццаці дзяржаў, запрошаных прэм'ер-міністрам **Ганнай Сухоцкай** на канферэнцыю ў Варшаву. ЗША прапануе 200 млн. дол., Японія - 146 млн., Італія - 100 млн., Швейцарыя - 30 млн., Швецыя - 1,5 млн. /працэнты ад свайго ўкладу/, Аўстралія - 1 млн. долараў.

**Чэхаславацкі парламент** прыняў праект пастановы аб роспуску федэрацыі з канцом 1992 года без патрэбы правядзення рэферэндуму. Гэтым самым федэральны парламент ліквідаваў апошнюю юрыдычную перашкоду, якая мяшала ў падзеле Чэхаславакіі з 1 студзеня 1993 года на дзве незалежныя краіны - Рэспубліку Чэшскую і Рэспубліку Славацкую.

**У большай частцы "польскіх" раёнаў Віленшчыны** трэба будзе паўтараць самаўрадавыя выбары з-за нізкай прысутнасці выбаршчыкаў. У 55 з ліку 76 выбарчых акругаў у Салечнікім і Віленскім раёнах прысутнасць не дасягнула 50 працэнтаў, што ёсць неабходнае, каб выбары прызнаць сапраўднымі. У абодвух раёнах не выбрана 2/3 ліку дэпутатаў і такім чынам немагчыма склікаць пасяджэнні радаў, пакуль не адбудуцца паўторныя выбары.

**Улады Менска** вырашылі, што з гарадскіх таксафонаў можна карыстацца бясплатна. Прычынай гэтаму з'яўляецца незвычайная рынычная цана пятнаццацікапеечнай манеты, якая шматкратна перавышае яе намінальную вартасць. Апошнім часам многія жыхары сталіцы Беларусі карысталіся манетамі з ніткай або спецыяльнымі іголкамі, якімі блакавалі ў тэлефонных аўтаматах механізм, што прымае манеты. Такая сітуацыя будзе працягвацца да часу ўвядзення жэтонаў.

**"Палякі і немцы"** - так называлася троххдзённая сесія арганізаваная адзяленнем таварыства "Wspólnota Polska" ў Аполі ў гадавіну ратыфікацыі трактата аб добрым суседстве паміж Польшчай і Нямеччынай. Сенатар ад нямецкай меншасці **Герхард Бартодзей** сказаў, між іншым: "Час працуе супраць нямецкай меншасці ў Польшчы. Калі яе маладыя сябры не ўбачаць паляпшэння ў эканамічнай сферы - будуць эміграваць, а старэйшыя - ізноў ізалявацца ад грамадства". Сцвердзіў ён таксама, што сёння нямецкая меншасць у Польшчы ледзь талеруецца, а трэба імкнуцца да таго, каб яе акцэптавалі. Старшыня сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцяў **Ян Пянткоўскі** сказаў: "Апошнія дзеянні меншасці на Апольшчыне непакояць польскую большасць і выклікаюць улаcцівую рэакцыю з боку кампетэнтных дзяржаўных органаў". Пасля Я. Пянткоўскага непакоіць масавая пабудова /без згоды улад/ помнікаў загінуўшым нямецкім салдатам /зараз будуецца іх каля 40/, увядзенне двухмоўных надпісаў на дарожных указальніках з назвамі мясцовасцей і вяртанне да назваў, устаноўленых пасля прыходу Гітлера да ўлады, узнімание пытання падвойнага грамадзянства, паўсюднае пазбяганне моладдзю, якая прыналежыць меншасці, ваеннай службы, узрастаючая актыўнасць крайне правых нямецкіх арганізацый. Успомніў ён і аб "парушанні права пры фінансаванні меншасных таварыстваў, таксама афіцыйнымі прадстаўніцтвамі ФРГ".

**Школьніцтва поўнасцю пяройдзе на ўтрыманне самаўрадаў** з 1 студзеня 1994 года. Але ўжо два гады існуе магчымасць ранейшага пераходу школ у распараджэнне гмінаў. Да гэтай пары ў Беластоцкім ваяводстве толькі дзве гміны: Вышкі - 9 школьных пунктаў і Нарва - 5, перанялі школы на сваё ўтрыманне. Восем гмінаў: Бранск, Мілейчыцы, Нурэц-Станцыя, Дубічы-Царкоўныя, Нараўка, Чорна-Беластоцкая, Кнышын і Васількаў плануюць зрабіць гэта пасля новага года. Аднак у сувязі са змяншэннем планаваных раней субвенцый на школьніцтва, у некаторых гмінах думаюць адтэрмінаваць выкананне пастановў гмінных радаў аб прыняцці школ на самаўрадавае ўтрыманне.

**Яўген Лугін** — лідэр Беларускай сялянскай партыі, які быў госцем кангрэсу ПСЛ, пабываў на Беласточчыне і наведаў рэдакцыю „Нівы".

**Работнікі чыгуначнага транспарту** адзначылі прафесіянальнае свята ў дзень сваёй заступніцы св. Кацярыны. Дваццаць сем беластоцкіх транспартнікаў атрымалі з гэтай нагоды залатыя і сярэбраныя знакі "Заслужаны чыгуначнік".

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Як змяніць сабе твар, — інфармуе А. Гаўрылюк.
- ✓ М. Панфілюк лічыць В. Шведа беластоцкім Янкам Купалам.
- ✓ П. Байко пра крызіс у паляўніцтве.
- ✓ А. Латышонак у ролі перакладчыка прэм'ер Г. Сухоцкай.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### АСАДЗІ НАЗАД!

І на Беларусь завітала мода на рэферэндумы. Днямі скандал вакол пытання аб рэферэндуме наконт адстаўкі мясцовага Савета народных дэпутатаў узнік у Глуску. Яшчэ ў верасні ініцыятыўная група падала заяву аб сваёй рэгістрацыі ў райвыканкам і праз месяц дачакалася... рашучай адмовы. Словам, старшыня параіў завадатарам не лезці перад Вярхоўным Саветам у пекла, бо толькі ён правамоцны распусціць мясцовы Савет.

Цяпер па просьбе членаў ініцыятыўнай групы пытанне аб незаконным рашэнні райвыканкама разглядае суд. Тым часам у Чэрыкаве (таксама Магілёўскай вобласці) у падтрымку раённага рэферэндуму ўжо сабраны подпісы.

### ЖОЎТАЯ РУЖА — ЭМБЛЕМА РДСПС

21 лістапада ў Менску адбылася другая рэспубліканская канферэнцыя „Движения за демократию, социальный прогресс и справедливость", на якой дэпутаты, нарэшце, прынялі ў якасці сімволікі чырвонае палотнішча з залатымі літарамі назвы руху ў верхнім кутку і эмблему-ружу з такім жа надпісам. У той жа дзень сустракаліся і камуністы. На ўстаноўчую канферэнцыю Менскай абласной арганізацыі партыі камуністаў Беларусі прыехала 139 дэлегатаў, якія заслухалі, абмеркавалі і прынялі пастановы па двух дакладах: аб бягучым моманце і праекце Праграмы ПКБ, а таксама — Зварот да камуністаў, усіх працоўных вобласці.

Паабяцаўшы змагацца супраць тых, хто спрабуе ўвесці беларускі народ у вір нацыяналізму і канфрантацыі, дэлегаты пацвердзілі сваю еднасць спевамі „Інтэрнацыянала".

### НАМ БЫ ТОЛЬКІ ГОД ПРАТРЫМАЦЦА

Тэмпы спаду вытворчасці за кастрычнік на Беларусі склалі 4,5 працэнта ў параўнанні з 10,8 працэнта ў верасні.

Віцэ-прэм'еру Беларусі Міхаілу Мясніковічу гэта дае падставы сцвярджаць, што ўраду ўдалося стрымаць спад эканомікі. Па яго ж словах, намаганні беларускага ўрада ў бліжэйшы час будуць скіраваны на стабілізацыю цэн шляхам далейшага іх дзяржаўнага рэгулявання, змен у падаткавай палітыцы, стварэння інвестыцыйных фондаў і холдзінгавых кампаній, вызначэння галінаў, у якія будуць накіраваны замежныя крэдыты.

Яго б словы ды Богу ў вушы.

### ЦЯЖКА ЖЫЦЬ БЕЗ ПІСТАЛЕТА

Сапраўдная гонка ўзбраенняў закончылася нядаўна ў Савеце Міністраў Рэспублікі і беларускім парламенце.

Згодна з інфармацыяй старшыні камітэта дзяржбяспекі рэспублікі Эдуарда Шыркоўскага, міністэрскія чыноўнікі і некаторыя народныя дэпутаты Беларусі незаконна набылі ў асабістае карыстанне каля 200 вінтовак і пісталетаў. І хоць прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч спецыяльным загадам спыніў гонку ўзбраенняў, вяртаць зброю ніхто з дзяржаўных дзеячоў не спяшаецца.

### РАДЫЯЦЫЯ НА ЭКСПАРТ

Падобна на тое, што на Беларусі нараджаецца страшэнны бізнес — гандаль радыеактыўнымі прыладамі. На мінулым тыдні ў Салігорску з памяшкання вытворчага аб'яднання „Беларуськалій" нехта ўкраў ажно тры прылады, якія ўтрымліваюць цэзій-137. Гэта ўжо другі выпадак крадзяжу крыніц радыеактыўнага выпраменьвання на Беларусі.

На думку спецыялістаў крымінальнага вышуку, радыяцыйную здабычу злодзеі прадаюць за мяжу ў краіны Заходняй Еўропы.

### АХ, БЕЛЫ ЦЕПЛАХОД...

Першая спроба падзяліць маёмасць былога Саюза паміж рэспублікамі завяршылася для Беларусі не вельмі ўдала. У прыватнасці, наша рэспубліка не атрымала пакуль ніводнага карабля з гандлёвага флоту былога СССР. Супакойвае, праўда, што хоць з чыгуначным транспартам нас не абдзялілі. Беларусі перададзена 36 тысяч 98 вагонаў або 2,39 працэнта ад агульнай колькасці.

### СПРАВА СЛУЦКІХ ПАЎСТАНЦАЎ ЖЫВЕ, АЛЕ ПАКУЛЬ НЕ ПЕРАМАГАЕ

27—29 лістапада г.г. упершыню на Беларусі будуць урачыста святкавацца 72-я ўгодкі Слуцкага паўстання.

У гонар паўстанцаў па ўсёй Беларусі пройдуць набажэнствы ў праваслаўных царквах, таксама адбудзецца асвячэнне памятнага крыжа і закладка помніка загінуўшым ваярам. Дарэчы, выканкам Беларускае сацыял-дэмакратычнае Грамады прыняў рэзалюцыю „Да гадавіны Слуцкага паўстання". У ёй адной з асноўных прычын паўстання адзначана і бальшавіцкая палітыка харчразвёрсткі. А таму грамадаўцы пакляліся, што будуць прыкладваць усе намаганні, каб беларускі селянін зноў меў права купляць зямлю ў прыватную ўласнасць.

### НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

Прадстаўнікі культуры, навукі, грамадскія дзеячы не толькі Беларусі, але і Польшчы заснавалі Беларускі фонд польскага паэта-гуманіста Адама Міцкевіча. Праўленне фонду ўзначаліў паэт і вучоны Алег Лойка, а сродкі яго, як вырашана на ўстаноўчым сходзе ў Навагрудку, будуць выкарыстоўвацца для прапаганды літаратурнай спадчыны польскага класіка і на мерапрыемствы, прысвечаных 200-м угодкам паэта, што будуць адзначацца ў 1998 годзе.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ

Прыемны пах хлеба вылоўліваю яшчэ не адчыніўшы дзвярэй. Так, не можна памыліцца, тут пякарня. У невялічкай канторы прымае мяне кіраўнічка Яніна Храпан. Якраз зайшоў і старшыня Гміннага кааператыва „Самапомач хлопская” ў Белавежы Аляксей Семянюк, якому пякарня падлягае. Кароткая размова начальніка і падначаленай: як ідзе прадукцыя, чаго патрэба і наканец асноўныя вызначэнні на найбліжэйшы час. Калі ўжо астаемся з кіраўнічкай самі, звоніць тэлефон. У міжчасе пад'язджае „жук” развезці хлеб у крамы. Заходзяць працаўнікі за парадай. Нарэшце мы ізноў самі. Працягваю руку за маім рэпарцёрскім блакнотам. Тэлефон быццам чакаў на гэты рух.

— Прабачце, спадарыня Яніна, — гавару смеючыся, — але ці я сапраўды трапіў у пякарню, а не ў нейкі штаб камандавання?

— У нас гэтак штодня, — чую ў адказ. — Хлеб гэта вельмі важная справа. Без яго нікому не абыйсціся.

Яніна Храпан кіраўнічкай белавежскай пякарні працуе са жніўня 1989 г., а ў самім Гмінным кааператыве роўных 20 гадоў. Яна вельмі прадпрымальная жанчына, лёгка спраўляецца з усімі цяжкасцямі.

— Як нам працуецца ў цяперашняй рэчаіснасці? —задумоўваецца яна на момант. — Нармальна! Канкурэнцыя ўводзіць здаровы дух спаборніцтва. У самой Белавежы паявілася шмат прыватных крамаў, некаторыя з іх прадаюць хлеб з гайнаўскіх і навакольных пякарняў. Але і ёсць такія ўласнікі крамаў, якія бяруць хлеб толькі ў нас. Усё ж у асноўным белавежцы ядуць белавежскі хлеб. Скажу нават, што некаторыя прадаўшчыцы ў прыватных крамах, хаця і прадаюць хлеб з іншых пякарняў, але сабе купляюць наш, у ГСаўскіх крамах. Вядома, нас гэта цешыць. Прыватнікі ў свой час перанялі пастаўкі хлеба ў пушчанскія вёскі. Пасля некалькіх тыдняў тамашнія жыхары папрасілі нас, каб мы ізноў пачалі іх забяспечваць хлебам. Зараз зноў абслугоўваем усю тэрыторыю Белавежскай гміны. З некаторым асартыментам выходзім па-за межы гміны — у Гайнаўку, нават у Беласток. Пераважна з піражным. Быў час, што пастаўлялі мы наш хлеб у прыватныя крамы Гайнаўкі. Але ёсць адзін бар'ер, які цяжка нам пераадолець — гэта кошт транспарту. Ён рэзка паніжае прыбытак.

Белавежская пякарня выпускае штомесяц 20—25 тон хлебабулачных вырабаў. Працуюць у ёй пяць пекараў, сярод іх аж трох Раманаў — Харольскі, Казак, Падлашчык, Ежы Галота і Аляксей Пацэвіч. Прафесію пекара вывучае тут таксама пяць вучняў. Пякарня працуе на дзве змены. Маглі б працаваць і на трэцюю, але пакуль што няма такой патрэбы, хіба што ўдасца выйсці на шырэйшы рынак з кандытарскімі вырабамі. У пякарні думаюць таксама купіць тэхналагічную лінію для прадукцыі французскіх булачак.

— Наогул робім шмат намаганняў, — сцвярджае Я. Храпан, — каб нашыя вырабы былі высокаякаснымі. І гэта нам удаецца. Стараемся пастаўляць у крамы толькі свежы хлеб. Безупынна прыслухоўваемся апініям пакупнікоў. Вось, нядаўна, у сувязі з павышэннем цэн на хлеб, перайшлі мы на ніжэйшую граматуру буханкі. Асабліва падыходзіць гэта пенсіянерам. Выкарыстоўваем усе магчымасці паніжэння коштаў прадукцыі. Рэкламацыі пакупнікоў здараюцца вельмі рэдка, а калі ўжо, то выкліканы яны якасцю мукі. На жаль, не маем у сябе лабараторыі, каб правяраць змесціва глютэну ў муцэ. У асноўным купляем муку ў млыне ў Залессі, у Бяльска-падляшскім ваяводстве. Добрая мука ў Беластоку, але надта яна дарагая і плаціць трэба наяўнымі грошамі. На якасць хлебабулачных вырабаў могуць паўплываць таксама перапынкі ў пастаўцы электраэнергіі ці вады, якія здараюцца час да часу.

— Ці ведаем, колькі хлеба ўдзень патрабуюць белавежцы? — задумоўваецца Яніна Храпан. — У асноўным так, але часам мяшаюць нам прыватныя пастаўшчыкі, якія прывозяць хлеба раз менш, раз больш, але заўсёды столькі, колькі напэўна прададуць. У прыватнай краме хлеба можа не хапіць і людзі чамусьці гэта разумеюць. Але няхай не хопіць хлеба ў нашых ГСаўскіх крамах, тады пакупнікі абавязкова падымуць крык. А мы ж не можам пячы на запас. Нас таксама абавязваюць правілы эканомікі. Усё ж пільнуем, каб хлеб быў у пастаянным продажу ў спажывецка-манапольнай краме, якая працуе таксама ў нядзелі і святы. Найбольш аднак прадае хлеба „адзінка” (на вул. Спартовай). Тамашнія прадаўшчыцы Аліна Артэмюк і Ніна Валкавыцкая заўсёды сочаць за поўнымі паліцамі.

Перад развітаннем я яшчэ раз закрануў справу мукі. Даведаўся, што зараз ёсць праблемы з закупкай жытняй мукі, а наогул яе цана рэзка павысілася і мала розніцца ад пшанічнай. Усё ўзялося з таго, што землябробы перакінуліся на іншае збожжа, якое лепш ім аплачваецца вырошчваць. — Я не здзіўлюся, — сцвердзіла мая субяседніца, — калі неўзабаве цана жытняй мукі перавысіць пшанічную.

Калі я пакідаў кантору, папаўся мне на вочы тэкст верша, напісанага вялікімі літарамі на лістку, прышпіленым да саламянкі на сцяне. Ён мне вельмі спадабаўся і на добры лад можа было б яго палічыць эпіграфам да гэтага рэпартажа. Паслухайце:

*Хлебе наш надзённы*
*— святы, ласкавы,*
*калі цяжка запрацаваны*
*— лёгкі, калі без працы*
*прыходзіш,*
*— горкі, калі чужы.*
*Нядобры чалавек, які ніколі,*
*з нікім табой не падзяліўся.*
*Вопытны ж дужа,*
*калі еў цябе з не адной печкі.*

**ПЁТР БАЙКО**

## У КЛЯШЧЭЛЯХ НЕШТА ЗРУШЫЛАСЯ З МЕСЦА

"Кляшчэлеўская гміна яшчэ нядаўна была самай беднай у ваяводстве, - кажа Мар'я Клімовіч, - грошы даводзілася пазычаць у суседзяў".

Мар'я Клімовіч працуе ў Гмінным асяродку культуры і рэдагуе мясцовую газетку "Co słychać w gminie". Яна добра зарыентаваная ў тым, што адбываецца ў ваколіцы.

"У нас цяпер вядуцца чатыры вялікія пабудовы. Першая, гэта школа. Яшчэ за сацыялізму ў Кляшчэлях пачалі будаваць новы дом культуры. Потым, з-за недахопу сродкаў, працу спынілі. Цяпер будова гэтага аб'екта ўзнавілася, але змяніліся планы адносна яго прызначэння - не дом культуры ў ім будзе, а школа. Управа гміны вырашыла, што менавіта школа ў Кляшчэлях больш патрэбная. Насельніцтва з гэтым рашэннем поўнасцю пагаджаецца.

У саміх Кляшчэлях будуецца яшчэ ачышчальня сцёкаў і рамантуецца купальны басейн. Чацвёртая інвестыцыя ў гміне - гэта вадаправод у вёсцы Дабрывада. Важнае, што ўсе гэтыя працы пачаліся сёння. А то ўжо зусім быў упаў дух у народзе, нейкая апатыя найшла на людзей".

На пацвярджэнне сваіх слоў пані Мар'я дастае апошні нумар гміннага бюлетэня і прыводзіць цытату з выказвання солтыса Сухавольцаў - найпрыгажэйшай і найбольш актыўнай вёскі ў гміне. Ён таксама наракае на тое, што ў сённяшняй сітуацыі няма нават ахвоты за што-колечы брацца.

"Можа гэтыя інвестыцыі зноў неяк падбадзёраць людзей, - працягвае думку Мар'я Клімовіч, - паявіцца штуршок, каб нешта змяніць вакол сябе, перабудаваць, упрыгожыць".

**ак**

## ЗАБОЙСТВА Ў ШЧЫТАХ

**А палове сёмай вечара ў камісарыяце паліцыі ў Орлі адазваўся тэлефонны званок. У трубцы адчайны голас машынальна паўтараў:**

**- Забіў, я забіў... не ведаю як... забіў...**

У аўторак 10 лістапада жыхар Шчытоў-Навадвораў Мікалай Б., якога ў вёсцы называлі проста Бачком, малаціў збожжа. Паколькі ў яго гаспадарцы быў слабы электрычны ток, без гэтак званай "сілы", працягнуў ён кабель да суседа цераз адну хату - Віктара С. Звычайная гэта справа на вёсцы, што сусед суседу памагае ў патрэбе.

Змалаціўшы, Бачок пайшоў разлічыцца. Прыхапіў, зразумела, з сабою і паўлітра. Як яны там разлічваліся і колькі пры гэтым выпілі, невядома. Для Бачка была гэта апошняя і выпіўка, і малацьба, і ўсё на свеце.

Людзі ў Шчытах пра нябожчыка кепска не кажуць. Добры быў чалавек, майстравы, нікому па-суседску не адказаўся ў помачы. Адно, што выпіць любіў. Мужчыны кажуць: "крыху", жанчыны: "амаль не цверазеў, аж нос сіні зрабіўся". Але, каб што калі каму дрэннага па-п'янаму зрабіў, дык не, ніколі. У сварку ці ў бойку не лез. Жанчыну якую часамі абдыме, прытуліць, і гэта ўсё.

Затое Віктар С. - на 20 гадоў маладзейшы за забітага - смактануўшы гары спакойны не быў. Гэта ў вёсцы ўсе ведаюць. Па-п'янаму мог і за грудзі схапіць, і па галаве трэснуць без дай прычыны. Адзін чалавек з Крывой успамінае, як гадоў таму з 6 прыбегла да яго ўначы заюшаная маці Віктара С. "У мяне жонка са Шчытоў, - кажа ён, - то тая жанчына ў нас і шукала паратунку. Сынок яе, Віцька, так адлупцаваў".

Аднак, такое, відаць, не здаралася часта, бо з паліцыяй Віктар С. не меў ніякіх дачыненняў. Мала таго, у гмінную раду выбралі яго людзі. Праўда, каб выйграць выбары ў Шчытах, не спатрэбілася і дзесятка галасоў, але ўсё ж такі - радны.

Можа з-за гэтага раднага і здарылася трагедыя. Бачок меў да свайго суседа нейкія прэтэнзіі, што той, будучы, усё ж такі, уладай у гміне, не аформіў у спосаб для яго карысны справы з дарогай на загуменні. Што яму Віктар С. павінен быў аформіць, зусім неістотна, але якраз з-за дарогі даходзіла між суседзямі да спрэчак. Аднак, ці ж мала чаго па-суседску бывае? Ці за такую драбязу разваляюць адзін аднаму чэрап?

У газетах напісалі, што ўдар быў нанесены штыкецінай. Людзі толькі галовамі круцяць над такой "сенсацыяй". Хто бачыў, каб так драўлянай планкай галаву раструшчыць? Сякерай ляснуў, от і ўсё. Хтосьці дадае нават, што на сякеры кроў знайшлі.

Але гэта няпраўда. Якраз прадмет, якім учынене было злачынства, застаецца загадкай і сёння. Віктар С. гаворыць, што сам не ведае, як гэта сталася. Кажа толькі, што першым ударыў Бачок, а ён аддаў, але чым, не ведае. Паліцыянты забралі для экспертызы жалезную завесу. Аднак не таму, што на ёй быў нейкі след, а толькі дзеля таго, каб эксперт выказаўся, ці ад удару гэтай завесай магла зрабіцца такая рана.

Віктара С. паліцыянты ўбачылі, калі той вяртаўся ад тэлефона. Быў яшчэ здорава п'яны і поўнасцю шакіраваны тым, што здарылася. Колька Б. ляжаў на панадворку, дзе сабраўся ўжо даволі-такі вялікі натоўп суседзяў. Па тым, як ляжала цела, было відаць, што нябожчыка пераносілі, але нідзе не заўважалася сляду бойкі. У хаце сям'я Віктара С. прыбрала нават посуд пасля выпіўкі. Каб не труп, быў бы гэта звычайны восеньскі вечар, калі людзі ў цёплых хатах пасля вячэры дрэмлюць перад тэлевізарам.

Гарэлка, хай бы яна спруцілася, нарабіла бяды, кажуць у Шчытах. Нестары быў яшчэ чалавек, да 50 гадоў усяго некалькі дзён заставалася, а вось ляжыць у магіле. Віктар С. надалей прытрымліваецца версіі, што не памятае, як забіў. Дурман алкагольны найшоў на яго.

Пракурор на судзе можа патрабаваць для забойцы ад 2 да 15 гадоў турмы. Віктару С. усяго 30 гадоў, удома ў яго маладая жонка і трохгадовае дзіця.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ТАМ, ДЗЕ РАСЦЕ ВУЖАВА ЗЕЛЛЕ

Запаведнік „Сіткі” з'яўляецца адным з трынаццаці такога роду аб'ектаў у гаспадарчай частцы Белавежскай пушчы. Заснаваны ён у 1979 г. і знаходзіцца ў межах надлясніцтва Гайнаўка (у кварталах 667 і 668). Паверхня яго — 34,09 га.

У запаведніку захоўваецца натуральны фрагмент пушчы, складзены галоўным чынам з брушнічнага бору і пажарніцава-сасновага мяшанага бору. На жаль, можна ў ім дагледзецца нейкіх дэфармацый, выкліканых ранейшай гаспадаркай. Прыкладам могуць быць маладнякі, узнікшыя на месцах гнездавых і поўных высечак. Прыкметныя напаверхнявыя знішчэнні ў запаведніку наносяць цяжкія аўтамашыны, якія вывозяць драўніну ў рамках санітарных высечак. Выкарыстоўванне дарог у сваю чаргу паўплывала на праніканне ў пушчу чужых тут відаў раслін, такіх як, напрыклад, жарновец мяцёлчаты ці малачай кіпарысавы.

Усё ж такі флора запаведніка пастаянна вылучаецца значнай колькасцю і прысутнасцю шматлікіх відаў рэдкіх раслін, з ліку якіх трынаццаць ахоўваецца ў Польшчы законам. На асаблівую ўвагу заслугоўвае даволі часта тут сустраканая неатыянта клабчуковая, дарэчы — занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі. З іншых ахоўваемых відаў трэба назваць: граздоўніка паўмесяцавага (яго называюць таксама ключ-трава, а ў народзе вужава зелле; выкарыстоўваецца яно як гаючы раны сродак), талакнянку звычайную, дуброўкі — пясчаную і турынгійскую, купальнік чорны, змеегалоўнік Руйша, наперстаўку буйнакветную, чорнагаловіка буйнакветнага, крынічніка каласістага, вапнаўку пучкаватую ці зуброўку паўднёвую.

Даследаванні флоры запаведніка вядзе шмат гадоў праф. Аляксандр У. Сакалоўскі з Лабараторыі натуральных лясоў Даследчага інстытута лясніцтва ў Белавежы.

**ТЭКСТ І ФОТА ПЯТРА БАЙКО**



*Запаведнік „Сіткі” надта цікавы для ўсіх аматараў прыроды.*

# ЗДАНЬ РЭФЕРЭНДУМУ

Вось ужо больш як паўгода здань блукае па шыкоўных апартаментах беларускага парламента. Здань рэферэндуму. І магчыма, праз пэўны час гэтая здань стане рэаліяй. Надзеяй, якая пераверне ўсю Беларусь, і наш шматпакутны, працавіты і талерантны народ нарэшце будзе мець варты яму парламент і ўрад...

А пачалося ўсё надзіва будзённа і проста. Напярэдадні мінулых праваслаўных каляд у цесным пакойчыку, які займала парламенцкая апазіцыя БНФ у Доме ўрада, сабраліся кіраўнікі ўсіх дэмакратычных партый і рухаў Беларусі, а таксама страйкавых камітэтаў і правялі супольную кансультацыйную нараду, на якой амаль адзінадушна заявілі аб неабходнасці рэфэрэндуму па пытанню аб адстаўцы Вярхоўнага Савета Беларусі. Як сказалі, так і зрабілі. Ужо адзінаццатага студзеня гэтага года на сойме БНФ быў скампанаваны касцяк ініцыятыўнай групы па збору подпісаў у падтрымку рэферэндуму. Пракамуністычны парламент і ўрад рэспублікі напачатку не вельмі сур'ёзна ўспрынялі акцыю дэмакратаў. Відаць, па старой партыйнай звычцы спадзяваліся, што народнафронтаўцы пашумяць і сціхнуць, а людзі за імі ўсё адно не пойдуць.

Першы гром грымнуў напрывясне, калі ініцыятыўная група зарэгістравала ў Цэнтральнай выбарчай камісіі пытанне і пачала збор подпісаў. Кіраўніцтва рэспублікі зусім не чакала такога спрыту і нават не паспела прыняць ніякіх мер, каб перашкодзіць рэгістрацыі пытання.

Наіўныя беларускія дэмакраты! Яны спадзяваліся, што варта ім сабраць неабходную колькасць подпісаў /не менш, як 350 тысяч/ і парламент адразу ж прызначыць дзень сваёй "смерці". Вярхоўны Савет хутка ачухаўся ад першага шоку. І калі праз месяц ініцыятары сабралі амаль 440 тысяч подпісаў у падтрымку правядзення рэферэндуму, юрысты з Цэнтральнай выбарчай камісіі пачалі ўсімі сродкамі чыніць розныя перашкоды. Але ў рэшце рэшт, справядлівасць перамагла, і ўжо ў пачатку красавіка дэпутаты ад апазіцыі ўнеслі пытанне аб рэферэндуме на разгляд парламента. Праўда, у чарговы раз наменклатурная большасць адхіліла гэту прапанову і тэрмінова закрыла сесію, аб'явіўшы парламенцкія вакацыі. Спробы апазіцыянераў сабраць сесію ўлетку аказаліся няўдалымі. Народныя выбраннікі, напалоханыя рэферэндумам, нават не пажадалі сабрацца, каб ратыфікаваць пагадненне аб скарачэнні ядзерных узбраенняў, тым самым падарваўшы аўтарытэт маладой беларускай дзяржавы ў вачах Еўрапейскага Супольніцтва. Але што там прэстыж краіны для большасці нашых парламентарыяў, калі захісталіся цёплыя крэслы!

На парадак дня чарговай сесіі што пачалася 20 кастрычніка вынесена каля 80 пытанняў, у тым ліку і пастанова аб рэферэндуме. Зрэшты, разглядваць яе дэпутаты не спяшаюцца, спасылаючыся на большую важнасць іншых законапраектаў. Вярхоўны Савет наўрад ці адважыцца праігнараваць волю 440 тысячаў грамадзян рэспублікі. Аднак правесці рэферэндум і тым больш новыя выбары ў парламент у гэтым годзе ў дэмакратаў не атрымаецца.

У лепшым выпадку выбары адбудуцца не раней вясны 1993 года. Справа ў тым, што кіраўніцтва парламента, мяркуючы па выказваннях у прэсе, пойдзе на кампрамісны варыянт. Напрыклад, на думку спікера Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, прапанаванае ініцыятыўнай групай пытанне рэферэндуму трэба крыху змяніць. Акрамя таго, Шушкевіч лічыць, што напачатку неабходна прыняць новую Канстытуцыю Беларусі, новы закон аб выбарах, а ўжо потым іх праводзіць. Зразумела, што ўсё гэта адцягне дату рэферэндуму на пэўны тэрмін, і парламенцкая большасць, якая не жадае сваёй палітычнай смерці, падтрымае ідэі свайго спікера. Тым часам на Беларусі адбываецца кансалідацыя неакамуністычных сілаў, якія будуць усяляк процідзейнічаць адбыццю рэферэндуму. Няма былога адзінства адносна рэферэндуму і сярод саміх дэмакратаў. Адзін з удзельнікаў ініцыятыўнае групы - Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, выступіла нядаўна з заявай, у якой прапанавала дабівацца дабраахвотнага самароспуску Вярхоўнага Савета. Дарэчы, такую ж думку падтрымлівае апошнім часам і Станіслаў Шушкевіч. Ён відаць таксама страціў надзею на правядзенне рэферэндуму.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

P.S. Люду Беларусі давялося праглынуць чарговую пілюлю ад ім жа народжанага Вярхоўнага Савета рэспублікі. Невядома, як астатнім, але чатырохстам сарака тысячам грамадзян, што выказаліся за правядзенне рэферэндуму аб недаверы вышэйшаму органу ўлады, падасца яна нашмат гарчэйшай за вынікі нядаўняга рэферэндуму аб захаванні Савецкага Саюза.

У падтрымку праекта пастановы апазіцыі, які прадугледжваў правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму 6 снежня 1992 года, выказаліся 35 дэпутатаў, а пункт пастановы аб адмове ў правядзенні рэферэндуму ў сувязі з парушэннямі заканадаўства набраў 202 галасы.

Што і казаць, дражніць людзей, якія паверылі ў Юр'еў дзень дэмакратыі - справа небяспечная. Таму чарговай абяцанкай /названай, дарэчы, спадаром Шушкевічам крокам насустрач тым грамадзянам рэспублікі, хто жадаў удзельнічаць у рэферэндуме/ прагучала прапанова аб правядзенні выбараў у новы Вярхоўны Савет у сакавіку 1994 года. На год раней канстытуцыйнага тэрміну.

Паказальна, што на зацікаўленасць удзельнікаў сесіі /яшчэ да ўключэння электроннай сістэмы галасавання па пытанню аб рэферэндуме/ пазіцыяй спікера Станіслаў Шушкевіч адказаў, што пры вынясенні пастановы Прэзідыума на абмеркаванне сесіі ён вымушаны быў падпарадкавацца большасці, але пры галасаванні мае намер устрымацца.

**М.Д.**

# НАША ЎКРАІНСТВА - ГЭТА ГЕШЭФТ

Дурань нам галаву нібыта ўкраінскім адраджэннем у Пабужжы і Панароўі. Я сам думаў, што гэта - сур'ёзнае, як кажуць: аўтэнтычнае. Давай прыглядацца з'яве. Звычайны гешэфт, аказалася, барацьба за аказіі і грошы, якою да паўсмерці ўпалохаліся тыя, хто адчуў сябе пад пагрозаю страты сяк-так прыстойных перспектыў на быт /функцыянеры/.

У Крывяцічах сказалі пра аднаго такога прышыванага ўкраінца: Ваня добрэ мае, вон крутіт з украінцамі, а воны бо-огаты...

Акурат памятаю Ваню. Калісьці засылаў "Ніву" карэспандэнцыямі тыпу: ганьба не быць беларусам! Ды не дало яму тое прыбытку. Цяпер у такім жа стылі, але на ўкраінскі манер, шпарыць ён па старонках галіцкаўніяцкага і люблінска-праваслаўнага "Нашага слова", што выходзіць у Варшаве. Хлопец ратуецца.

Незабыўны Грыша Мароз з Махнатага пракаментаваў справу беспардонна цэльна: мы, беларусы, можам пабыць і жыдамі, каб толькі карысць якая ад гэтага была... Так зрэагаваў на паводзіны некаторых хораў, што ездзяць - то на Свята беларускай культуры ў Беластоку, то на Украінскі фестываль у Сопаце, то на агляды польскага фальклору /ў Кракаў/. Усюды іх поўна. У Рыбалах зазлавалі былі на маю іронію: людзэ хочут пожиті, і кому тое шкодит, што кроху свету побачат!?

Прызнаюся, зрабілася сорамна за самога сябе. Бо і сапраўды: чаго я прычапіўся да нашага чалавека, якому, скажам, Саюз украінцаў Падляшша падсоўвае шанц, можа быць, адзіны ў яго зямным лёсе?

Гісторыя не ведае народу або хаця грамадскага класа, які сам жывучы ледзь з духам давёў да чароўнага росквіту ўласную культурную спадчыну. Таму не слухаю я байкаў ідэалістаў. З іх вельмі шляхетныя асобы і вялікі жаль, што растрачваюць яны сваю інтэлігентную энергію на дарэмныя натугі Сізіфа. Але, такая прырода іхняга характару і - значыць - так мусіць быць. Дарэчнасць гэтай праўды датычыць тут якраз тых, хто тлуміць мазгі комплексам цяжкага граху за недагляд квітнення беларушчыны ў Беластоцкім краі. Грэх ёсць, але і ёсць свежа вядомая ж драма герольдаў камунізму, якія непахісна верылі ў мацату заклінання рэчаіснасці палкім Словам. І вось табе на: ідэя сабе, а жыццё сабе.

Бельска-кляшчэлеўскае ўкраінства ўспрымаю я ўжо спакойна. Трохі як нейкі лабарант, што пазяхліва, без эмоцыяў, пазірае за марудным хімічнай рэакцыяй у шклянай кольбе або - што вырабляе белая мышка, калі напусціць ёй у клетку тытунёвага дыму, напрыклад. У нашым асяроддзі, прасякнутым навылет сялянскім менталітэтам, здарылася б нешта невытлумачальнае, калі б заўсёды прагматычныя вяскоўцы з местачкоўцамі захацелі раптам перабегчы ад беларускай нацыянальнай свядомасці да ўкраінскай менавіта. Паставяць Ваню першае пытанне: а ці лягчэй жыць ад гэтага будзе?

Ну і што ім скажа крывяцкі казак? Натхнёную прапаведзь пра патрыятызм. Аднак таго, хто ў поце чала дабіваецца кавалка хлеба, вернасці роднай зямельцы вучыць не трэба. Слушна абразіцца. Западозрыць Ваню ў падвойнасці, у чым, таксама, не памыліцца /заўважыць ненамазоленыя далоні ягоных рук паўінтэлігента/.

І яшчэ ў адным прасвятлеў мой розум: здзіўляла мяне, чаму ўлады так шчодра "падсыпаюць пшаніцы" гэтым нашым пару ўкраінцам, не шкадуючы дзесяткаў мільёнаў на іх імпрэзы і друк? Прычына вылезла шылам з мяшка: беларуская нацыянальная меншасць занадта густою ёсць і таму мус яе ім неяк расколаць на "ўкраінцаў", "русінаў", "падляшоў". А за кардонам маскоўска-камуністычныя дыверсанты супроць Беларусі перарабляюць палешукоў нават у... яцвягаў.*/

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

**/ Яцвягі - даўняе племя, сваяцкае цяперашняй Літве, якое ў сярэдневякоўі засяляла сённяшнія Сувальшчыну і Беласточчыну з працягам на заходняе Палессе; асімілявалася ў славяна-беларускай стыхіі, пакідаючы па сабе мноства мясцовых назваў, незразумелых нам; у глухіх закутках Прыбелавежжа захоўваліся іх дыялекты аж да канца васемнаццатага стагоддзя.*

# БАС ХОЧА РЭФЕРЭНДУМУ НА БЕЛАРУСІ

- Не, мяне не чапайце! Я не дэманструю, я толькі прыглядаюся...

- Вашы дакументы...

- Гэтага нельга фатаграфаваць! Забярыце ў яго плёнку...

Вось такімі, больш-менш, словамі перакідваліся студэнты і журналісты з аднаго, а паліцыянты з другога боку 10 лістапада г.г. перад пасольствам Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Паліцыя ўвесь час старалася не дапусціць да пікета, які арганізаваў варшаўскі гурток Беларускага аб'яднання студэнтаў. Аднак амаль гадзіну некалькі дзесяткаў чалавек дэманстравала перад сядзібай пасольства. "Беларусь не правінцыя Расеі", "Рэферэндум", "Беларус не камуніст" - такія і падобныя лозунгі трымалі ў руках і скандавалі студэнты.

28 кастрычніка сёлета Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адхіліў рэферэндум у справе паскарэння выбараў у парламент краіны. Вясною гэтага года пад патрабаваннем правядзення такога рэферэндуму падпісалася 440 тысяч гарамадзян рэспублікі. "Скамунізаваны Вярхоўны Савет, - чытаем у БАСаўскай адозве да ўлад Беларусі, - парушыў законы, якія сам устанавіў".

Студэнты дэманстравалі таксама супраць прапаноў "некаторых кругоў у Вярхоўным Савеце" надаць статус дзяржаўнай расейскай мове, якая ў Беларусі з'яўляецца каланіяльнай.

Кіруючы пікетам студэнт факультэта палітычных навук Варшаўскага універсітэта Яцак Пракапюк на дзвюх мовах - польскай і беларускай - паясніў мэты акцыі і зачытаў тэкст адозвы, накіраванай ураду і парламенту Беларусі.

Да дэманстрантаў выйшаў спадар Уладзімір Каральчук - сакратар пасольства і заявіў, што: "Мы гатовы прыняць вашую дэлегацыю". У пасольства пайшлі пяць чалавек. Прыняў іх Надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы Уладзімір Сянько. Абяцаў ён перадаць адозву ўладам у Менску, а пры нагодзе прадставіў свой пункт гледжання на падзеі ў Беларусі. Дэмакратызацыя, маўляў, гэта цяжкі і даволі складаны працэс, не заўсёды можна яго паскорыць. Тэрмін новых выбараў Вярхоўны Савет назначыў на вясну 1994 года і гэта, гаварыў спадар Сянько, мабыць самае аптымальнае рашэнне.

У час, калі ў пасольстве вяліся размовы, навонкі яго становішча абвастралася. Паліцыя прыступіла да дзеяння - знішчала транспаранты, спіхала людзей як мага далей ад пасольства. "Разыйдзіцеся! Вашая дэманстрацыя нелегальная, не маеце згоды на яе правядзенне" - паўтараў кіруючы акцыяй паліцыі падінспектар. Студэнты не здаваліся: пісьмовай згоды няма, але і няма забароны, а адпаведныя ўлады пра дэманстрацыю былі загадзя паведамлены.

Пікет закончыўся, калі з сядзібы пасольства выйшла студэнцкая дэлегацыя і расказала пра вынік перамоваў. Апрача БАСаўцаў прынялі ў ім удзел сябры палякі з Таварыства "Памост" і Польска-беларускага клуба ў Варшаве, між іншым перакладчык Чэслаў Сэнюх, які выступаў са словамі падтрымкі для ініцыятараў гэтага пратэсту. За ходам дэманстрацыі сачылі журналісты - сабралася іх тут каля дзесятка.

**ЮЛ.**



## *УВЯДЗЕННЕ БАГАРОДЗІЦЫ Ў СВЯТЫНЮ*

Гэтае свята Праваслаўная Царква адзначае 4 снежня (21 лістапада па ст. ст.). Паводле святой традыцыі памяць аб гэтым здарэнні захавалася ў хрысціянстве дзякуючы апосталу Іаану Багаслову. Пачуў ён аб ім з вуснаў самой Багародзіцы, калі па жаданню Хрыста стаў ён Яе апекуном:

*Сталі ж ля крыжа Ісусавага Маці Яго і сястра Маткі Яго, Марыя Кляопава, і Марыя Магдаліна.*

*Ісус жа ўгледзіўшы Матку і стаяўшага побач вучня, якога любіў, кажа Матцы сваёй: Жанчына, вось сын твой!*

*Пасля кажа вучню: Вось маці твая! І з таго часу вучань гэты ўзяў яе да сябе.*

*(Іаан, 19, 25—27).*

Калі Прасвятой Дзеве Марыі было тры гады, яе бацькі Яакім і Анна рашылі стрымаць дадзенае раней слова і аддаць сваю Дачку на службу Богу. Запрасілі тады да сябе ў Назарэт сваіх блізкіх. Выводзіліся яны з каралеўскага (ад караля Давіда — з боку Яакіма) і архірэйскага (з боку Анны) родаў. Адтуль усе падаліся ў Ерусалім, каб увесці Марыю ў святыню і выканаць дадзенае Богу абяцанне. Гэтаму незвычайнаму шэсцю прыглядаліся многія жыхары зямнога Ерусаліма, але



з'явіліся і жыхары нябеснага — святыя анёлы. Трыумфальным шэсцем Анна з Марыяй набліжаліся ў святыню. Жылі тады пры храме мужчыны і жанкі — удовы і дзевы, якія вялі чысты вобраз жыцця. Былі яны першавобразам пазнейшых хрысціянскіх манахаў. Жаль, які перажывала Анна з прычыны расстання з Дачкой, змагаўся ў яе душы з радасцю ад перадачы Богу гэтага дару, які ад Яго атрымала.

Перад ерусалімскім храмам чакалі іх свяшчэннікі і першасвяшчэннікі. У акружэнні сваякоў і дзяўчат, у руках якіх знаходзіліся запаленыя свечкі і алійкавыя лампадкі, Прасвятая Дзева Марыя лёгка пераадолела высокія ступені сходаў, што вялі ў святыню. За апошнюю, пятнаццатую, ступеньку ніхто з молячагася народу не ўваходзіў. Аднак першасвяшчэннік, ведзены таінственным натхненнем, павёў Яе проста там, дзе яму можна было ўвайсці толькі раз у год, у Святое Святых. Гэтае самае святое месца храма стала месцам частых малітваў Прасвятой Дзевы Марыі. У гэтым часе ў ім не было ўжо Каўчэга Старога Запавету, быццам на знак таго, што час згоднага сужыцця ўжо мінае і сама Прасвятая Дзева становіцца новым адушаўлёным Божым Каўчэгам.

Прасвятая Дзева Марыя прабывала ў ерусалімскім храме да 14 года жыцця, каб з наймалодшых гадоў пад апекай старэйшых жанок пазнаваць Свяшчэннае Пісанне, вучыцца чытанню і рукадзеллю. Яе Бацькі, а асабліва Праведная Анна, часта наведвалі Марыю. У настроі цішыні, малітвы і роздумаў, Марыя, якая неўзабаве мела стаць Маці нашага Збавіцеля, аддавалася Богапазнанню.

А вось трапар свята:

*Сёння першае выяўленне міласці Божай і прадказанне збаўлення людзей, бо ў святыні Божай адкрыта з'яўляецца Дзева і ўсім прадказвае Хрыста. Таму і мы ёй усклікаем: радуйся, здзяйсненне Творчага прадвызначэння.*

З таго дня можна ўжо спяваць калядкі, бо Увядзенне Прасвятой Дзевы ў Святыню было першым этапам таго, што мела здарыцца ў віфліемскую ноч.

С.Н.

## У ШТО МЫ ВЕРЫМ?

Нашыя людзі хутка перакідаюцца з адной крайнасці ў другую; тыя, што нядаўна „свята" верылі ў Леніна, сёння свята вераць у другіх баламутаў: розных жулікаў, біяэнергатэрапеўтаў такіх як Кашпіроўскі, Альгіс Егерскас, Чумак і іншыя. Усе яны прайдзісветы, ілгуны і бязбожнікі. Андрэй Гаўрылюк мноства каштоўнага месца прысвяціў гэтым ведзьмарам XX стагоддзя, узносячы іх да неба ў артыкуле „Альгіс Егерскас — як Кашпіроўскі" ў 46 нумары „Нівы". Варта бліжэй зацікавіцца гэтымі „чарадзеямі", даведацца, адкуль яны бяруцца і што сабой прадстаўляюць.

Адказы на гэтыя пытанні дае Свяшчэннае Пісанне — „Біблія". Усе гэтыя „чарадзеі" з пекла родам. У Першай кнізе Самуіла (раздзел 15, верш 23) напісана: „Што больш падабае Гаспадару нябеснаму: паслушэнства ці ахвяраванні? Лепей слухацца Яго, чымсьці ахвяроўваць Яму нат найлепшую жывёлу. Бунт супраць Яго так жахлівы як чары, а непаслушэнства — як ідалапаклонніцтва. За тое, што адхінуў слова Яго, Ён адхінуў цябе..." Вынікае адсюль, што чарадзейства — гэта вялікі грэх у вачах Усявышняга.

Яшчэ выразней на гэту тэму напісана ў „Аб'яўленні" („Апакаліпсісе") Іаана Багаслова (раздзел 21, верш 8): „А для палахлівых і няверных, для нягоднікаў і душагубаў, для распуснікаў і чарадзеяў, для слуг ідалавых і для ўсіх ілжывых — доля іх у возеры палаючай агнём серы, якая і ёсць другая смерць". Ні ў адным месцы Свяшчэннага Пісання не сказана, што чарадзеі, шаптуны і ім падобныя ўнаследуюць жыццё вечнае ў ног Хрыста. Такія Кашпіроўскія, Егерскасы — яны сябе называюць біяэнергатэрапеўтамі — гэта не хто іншы, як чараўнікі і ведзьмары XX стагоддзя.

Здзіўляе мяне, што веруючыя людзі, каталікі і праваслаўныя, якія палка моляцца ў сваіх святынях (як напрыклад Андрэй Гаўрылюк), вераць гэтым баламутам. Цікава, на скольні яны падлечылі нашага Гаўрылюка? Гэтыя ўсе Кашпіроўскія — слугі д'ябла і антыхрысты: яны нават на мізінец не вераць у Жывога Бога. За што іх выхваляць, гэтых ілгуноў? Я не пярэчу, што мо каму гэтыя „цудатворцы" і дапамаглі ў нейкай хваробе. Біблія аб'ясняе і гэтыя выпадкі: д'ябал на зямлі мае аграмадную моц і можа „падлечыць" чалавека, каб пасля пагубіць яго душу. Ці не ведаюць пра гэта наш Андрэй і сама рэдакцыя „Нівы"? Навошта так ахвотна пускаць усякую дурніцу на свае старонкі?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## І ШТО ДАЛЕЙ?!

Улетку гэтага года ў Святадухаўскім прыходзе ў Беластоку на першай (ранняй) нядзельнай Літургіі разам з чытаннем Апостала і Евангелля на старажытнацаркоўнаславянскай мове ўведзена таксама чытанне і на мове польскай. Пасля некалькіх месяцаў дайшоў новы элемент на гэтай мове, а менавіта пропаведзь. Такая практыка была ўведзена 25 кастрычніка г.г. (увесь час маю на думцы нядзельную раннюю Літургію). Гэтая навінка не выклікала эмоцый у вернікаў. Што ж, відаць Беласток — гэта не Гайнаўка (глядзі: „Ніва" н-р 44/92, стар. 5).

Чытаючы артыкул на тэму польскай мовы падчас набажэнстваў, аўтар якога і з'яўляецца ініцыятарам яе ўвядзення ў прыходзе Св. Духа ў Беластоку (глядзі: Wiadomości Bractwa, Białystok, Nr 2/92), узнікае думка, што, мабыць, гэта не апошні крок на гэтым шляху. І ці не выйдзе ён за межы гэтага прыхода?

Што ж, сумная наша беластоцкая рэчаіснасць. З цягам часу становіцца яна штораз больш сумнай, каб не сказаць — жахлівай.

**Н. СЕМАКОВІЧ**

## НАШЫ КАРАНІ

### XLVI. БЕЛАРУСКАЯ МІТРАПОЛІЯ

Як відаць з папярэдне сказанага, шлях да незалежнасці Беларускай /Навагрудска-Кіеўскай/ мітраполіі быў цяжкі, складаны і працяглы. Яна была заснавана на схіле панавання вялікага князя Віценя /памёр у 1316 г./, пры актыўным удзеле канстанцінопальскага патрыярха Афанасія І і яго наступнікаў, калі ў Канстанцінопальскім патрыярхаце праводзілася вялікая перабудова ўсяе царкоўнае структуры. Заснаванне мітрапаліцкай кафедры ў Навагрудку было вынікам не толькі старанняў вялікага князя Віценя, але таксама яе пакліканне падыктавала неабходнасць узмоцніць місіянерскую дзейнасць Праваслаўнае Царквы сярод язычаскага балцкага насельніцтва /аўкштотаў, яцвягаў, жамойтаў, латгалаў, селаў, семігалаў і інш./ і паўстрымання наступу Каталіцызму /атакі на беларускія землі ордэнаў крыжакоў і мечаносцаў/. Першым мітрапалітам у сталічным Навагрудку быў уладыка Феафіл, грэк па паходжанні. Беларускай мітраполіі Канстанцінопальскі патрыярхат адводзіў важную ролю, асабліва ў абароне Праваслаўя ад націску Каталіцызму, таму ўладыка аж тройчы /у 1317, 1327 і 1329 г.г./ прымаў удзел у працы Патрыяршага Сінода.

У Навагрудку, у даўнім, пабудаваным яшчэ ў XII стагоддзі Свята-Барысаглебаўскім саборы знаходзілася мітрапаліцкая кафедра. Пры саборы дзейнічаў значны мужчынскі манастыр, брація якога абслугоўвала мітрапаліцкую кафедру і разам з яе духавенствам дапамагала мітрапаліту ў кіраванні справамі і абслугоўванні аграмаднае мітраполіі. А Навагрудска-Кіеўская мітраполія была вельмі вялікая, яна прасціралася ад Чорнага да Балтыйскага мораў, ад ракі Дона і аж па раку Сан і Карпацкія горы.

Пасля смерці мітрапаліта Феафіла ў 1335 г. зацікаўленне Канстанцінопальскага патрыярха місіяй Беларускай мітраполіі з кожным годам змяншалася, і яна апынулася ва ўладанні маскоўскага мітрапаліта Феагноста. Вялікі князь Аляксандр-Альгерд, разумеючы важнасць для Беларускае дзяржавы самастойнай мітраполіі, адбудаваў Беларускую мітраполію. З 1354 г. узначальвае яе ўладыка Феадарыт, а затым - уладыка Раман, брат жонкі Аляксандра-Альгерда, вялікай княгіні Ульяны Цвярское. Многія царкоўныя і дзяржаўныя справы патрабавалі прысутнасці мітрапаліта ў Вільні, сталіцы дзяржавы. Яму часта даводзілася працяглы час прабываць там. У Вільні мітрапаліцкай кафедрай лічыўся Свята-Прачысценскі сабор, які быў пабудаваны князем Аляксандрам-Альгердам і княгіняй Ульянай. У падзямеллях сабора яны і былі пахаваны.

Пасля смерці мітрапаліта Рамана ў 1362 г., у сувязі з паслабленнем ролі Візантыі ў тагачасным свеце і адначана праваслаўнага патрыярха канстанцінопальскага ён паддаўся націску і подкупам маскоўскага мітрапаліта і скасаваў Беларускую мітраполію, а яе епархіі перадаў ва ўладанне Маскоўскай мітраполіі. Вялікі князь Альгерд вострa запратэставаў і дабіўся ўзнаўлення Беларускай мітраполіі і пастаўлення ў 1375 г. у мітрапаліта беларускага іераманаха Кіпрыяна. Пасля яго смерці ў 1406 г. яна каторы раз зноў была скасавана і яе епархіі былі падпарадкаваны мітрапаліту маскоўскаму Фоцію.

Аднак Навагрудскі сабор у 1414 г. не толькі аднавіў Беларускую мітраполію, але і аб'явіў яе аўтакефалію /гэта значыць - поўную незалежнасць/, а на кафедру ў Навагрудку ўзвёў мітрапаліта Рыгора. Князь Вітаўт разлічваў, што ўладыка пяройдзе ва унію і перавядзе за сабою пад уладу папы рымскага ўсіх праваслаўных жыхароў мітраполіі. Калі ж мітрапаліт Рыгор на Канстанцкім саборы голасна заявіў пра сваю непарушную вернасць Праваслаўю, Вітаўт перастаў спрыяць мітрапаліту і праваслаўнаму насельніцтву свае дзяржавы, у 1420 г. Беларуская мітраполія зноў была скасавана. На некалькі гадоў /1433-1435/ аднавіў яе мітрапаліт Герасім.

Ад часу пастаўлення ў 1458 г. у мітрапаліта навагрудскага Рыгора Балгарына наступіла канчатковае аддзяленне ад Мітраполіі кіеўскае і ўсяе Русі аўтакефальнае Маскоўскае мітраполіі, да яе належалі епархіі, што знаходзіліся на тэрыторыі тагачаснага Вялікага княства Маскоўскага.

У Беларускую або інакш Навагрудска-Кіеўскую мітраполію тады ўваходзілі епіскопіі: Полацкая, Смаленская, Чарнігаўская, Кіеўская, Тураўская, Навагрудская, Уладзіміра-Берасцейская, Луцкая, Холмская, Перамышльская і Галіцкая - разам адзінаццаць епархій. Праваслаўныя сённяшняе Беласточчыны належалі: паўночная частка па раку Нарву да Навагрудскае мітрапаліцкай епархіі, а паўднёвая - спачатку да Тураўскае, затым да Уладзіміра-Берасцейскае епархіі.

Канчатковае ўстанаўленне Навагрудска-Кіеўскае мітраполіі для Беларускай дзяржавы /Вялікага княства Літоўскага/ і Каралеўства Польскага спрыяла згуртаванню і ўмацаванню Праваслаўнае Царквы ў гэтых дзяржавах. Ёй перасталі закідаць, што яна падпарадкавана маскоўскаму мітрапаліту і не садзейнічае сваім дзяржавам.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# БРАКУЕ ПАДРУЧНІКАЎ

У мінулым навучальным годзе ў пачатковай школе ў Гарадку беларускую мову вывучалі 4 асобы /паводле афіцыйных дадзеных Куратары асветы/. У школе сказалі мне, што вучняў такіх было 20 - недакладнасць такая можа вынікнуць у ходзе навучальнага года, бо школы перасылаюць усялякія статыстыкі ў Куратарыю яшчэ ў верасні.

У навучанні беларускай мовы на Беласточчыне наглядаецца з кожным годам спад. У гэтым годзе, як адзначыла візітатар беларускай мовы Тамара Русачык, паводле ўступных падлікаў навучанне гэтае утрымліваецца на ўзроўні мінулага года. Ці 1992/93 навучальны год будзе пераломным у навучанні беларускай мовы, ад якога пачнецца паступовы ўзрост зацікаўленасці гэтым прадметам? На вывады такія яшчэ ранавата, але ўжо можна сказаць, што абсалютным выключэннем у статыстыцы, якая датычыць навучання беларускай мовы, з'яўляецца школа ў Гарадку. У ёй жа цяпер прадмет гэты вывучае звыш 70 дзетак.

Паводле дырэктара школы Ніны Маркевіч дзеці адчулі, што ніякі тут сорам і гаварыць па-беларуску. Тым больш, што і ў хаце гавораць па-беларуску. У мінулым навучальным годзе кіраўніцтва школы правяло ў Гарадку апытанне ў справе навучання беларускай мовы. Аб'явілася болей прыхільнікаў, чым на пачатку года. Ніхто тут нікога не прымушаў, сказала дырэктар, бацькі самі на пісьме склалі пажаданне, каб іхнія дзеці вывучалі родную мову.

Беларускую мову ў Гарадку вывучаюць дзеці з II, III і IV класаў. У кожным з гэтых класаў тры аддзелы - з кожных гэтых трох аддзелаў створаны адзін клас беларускай мовы. Ва ўсіх класах аднолькавая праграма - усе вучацца ад пачатку. "Нівай" і "Зоркай" пакуль не карыстаюцца.

Дзеці, звычайна, не ведаюць яшчэ ўсіх літар. Але ўсе яны, як сказала настаўніца Галіна Паплаўская, вельмі прыкладаюцца - надзвычай старанна выводзяць першыя свае кірылічныя літаркі ў сшытках у дзве лініі. Каб падмацаваць зацікаўленасць урокамі беларускай мовы, настаўніца абяцае сваім вучням экскурсіі ў Беласток і ў Беларусь. Плануецца наведанне нейкай прыгранічнай беларускай школы.

- Мы толькі пачынаем арганізаваць навучанне беларускай мовы, - кажа дырэктар, - адразу не размахнемся, не зробім яго маштабным. Памаленьку-памаленьку. У школе пакуль бракуе буквароў. Маем іх штук дваццаць, але гэтага хапае ўсяго для аднаго класа. Кнігі мусяць ляжаць у школе - адзін клас выходзіць, а за ім уваходзіць наступны. Немагчыма такім чынам нават даць дамашнюю працу.

- Акрамя буквароў, - сказала настаўніца беларускай мовы Галіна Паплаўская, - патрэбна мне дапамога і ў форме канспектаў урокаў. Я толькі здабываю неабходнае дзеля навучання дасведчанне - штудзірую пачатковае навучанне.

Міраслава Карпюк, дачка якой упершыню ў гэтым годзе пачала вывучаць беларускую мову сказала, што ў мінулых гадах як бы і не было запатрабавання з боку школы, каб пасылаць дзяцей на беларускую мову. Ну то я думала, што так яно і трэба, каб дзеці пачыналі навуку гэтага прадмета з трэцяга класа /дачка пані Карпюк у трэцім класе менавіта/.

У пачатковай школе ў Гарадку агулам 645 вучняў. На беларускую мову ходзяць у гэтым годзе таксама і дзеці з каталіцкіх сем'яў. Бракуе толькі падручнікаў. Падручнікі такія ёсць у Беларускім грамадска-культурным таварыстве ў Беластоку. Падтрымайце рэнесанс беларускай мовы ў Гарадку.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
Фота аўтара



# ЯШЧЭ АДЗІН НАІЎНЫ

У энтузіястычнай карэспандэнцыі Андрэя Гаўрылюка пра Таварыства "Памост" /Ніва, 45/ паражае перш за ўсё - святая беларуская наіўнасць. Наіўнасць таму, што любую арганізацыю нельга ацэньваць на аснове паасобнага выказвання чалавека /калі ён нават і доктар/, гэта па-першае. А па-другое, пра кожную грамадскую арганізацыю значна лепш сведчаць факты, чымсьці дэкларацыі. Што тычыцца фактаў, то найбольш знамянальным лічыць трэба той, што старшыня - Томаш Шчапанскі - з'яўляецца штатным дзеячам КПН. Інакш кажучы, на чале арганізацыі стаіць пілсудчык. На гэтым можна было б закончыць, бо гэтага ўжо дастаткова, каб зарыентавацца, што гэта за арганізацыя.

Дадайма аднак да вышэй сказанага, што Шчапанскі не толькі актывіст, але і публіцыст. Гартаючы канфедэрацкія газеткі можна наткнуцца на ягоныя артыкулы. Мерытарычна яны на ўзроўні тых жа газетак і якраз да банальнасці стэрэатыпныя. Дарэмнай стратай часу было б шукаць у іх нейкую свежую або арыгінальную думку. Пабачма, што Шчапанскі ў адным са сваіх артыкулаў - пра міжмора - піша, між іншым, пра Беларусь. Цытую: Białoruś i kraje Bałtyckie pełniłyby ważne funkcje w tym układzie, także ze względów geograficznych /Gazeta Wyborcza, 3-10 мая 1992 г./.

Маем тут прыклад інструментальнага падыходу - дадайма тыповага для пілсудчыкаў. Не трэба вялікай здагадлівасці, каб ведаць, што тая "важная функцыя" гэта - коратка кажучы - функцыя антымаскоўскага сабачкі на варшаўскім ланцугу. На месцы будзе тут элементарнае пытанне: а навошта Беларусі ажно такая "важная функцыя"? Ці сапраўды нельга будаваць нармальныя, добрасуседскія адносіны без гэтай цэлай эротыкі? Без старэйшых і сярэдніх братоў?

Невыпадкова якраз увага "Памоста" канцэнтруецца на украінскім напрамку. Пілсудчыкі дасканала разумеюць, што без Украіны нічога яны на ўсходзе не зваююць.

Да фактаў таксама аднесці трэба тое, што "Памост" не мае амаль ніякага грамадскага значэння. Існуе ён як быццам насуперак агульнаму цячэнню. Напэўна не ёсць ніякай канкурэнцыяй для размаітых "прыяцеляў крэсаў".

Што да тае ломкі стэрэатыпаў, што якраз нам прыпала роля нямых сведкаў нейкага фестывалю, іменна стэрэатыпаў, старых і закаранелых, да якіх дабаўляюць пакрысе і цалкам новыя. Можна быць упэўненым, што не адбываецца гэта без ніякіх прычын. Наогул ломка гэтых стэрэатыпаў усур'ёз немагчымая без палітычнай волі, і то на ўзроўні не ніжэйшым чымсьці дзяржаўны. Не відаць ніякай ахвоты да змагання са стэрэатыпамі і ў самім "Памосце", што найлепш відаць на прыкладзе публіцыстыкі старшыні Шчапанскага.

Прызнаюся, што я быў таксама наіўным, калі ў красавіку 1989 г. стаў адным з заснавальнікаў лодзінскага аддзялення "Памоста". Іншая справа, што тады ўсё выглядала інакш. Іншая была палітычная сітуацыя. Цяпер ужо дастаткова добра відаць у якім напрамку ўсё гэта паўзе. Адным словам - расплываюцца ілюзіі, а ўсё як быццам вяртаецца ў старыя каляіны.

На заканчэнне спяшаю дабавіць, што я ўжо выправіў сваю памылку. Выпісаўся з Таварыства "Памост", між іншым і таму, што як сябра гэтай арганізацыі не мог я мець ніякай упэўненасці, ці не выконваю я якраз нейкую "важную функцыю", не будучы нават да канца гэтага свядомым.

**МІКАЛАЙ ДАВІДЗЮК**

# НОВАБЕРАЗОЎЦАМ — УРА!

Некалькі разоў ужо збіраўся я напісаць віншаванне жыхарам вёскі Новае Беразова за тое, што паставілі яны помнік маршалу Пілсудскаму. Калі б пачалі яго будаваць палякі, было б усё нармальна, але беларусам за патрыятызм належная пахвала.

Я так цяжка хворы, што не ведаю, ці змагу закончыць гэтае, што хачу сказаць. Не магу астацца абыякавым да такой падзеі і хацця чарнавік ледзь трымаю ў руках, аднак хачу ў такі прынамсі спосаб падтрымаць сваіх землякоў. Не маю грошай і толькі добрым словам магу падтрымаць арганізатараў пабудовы гэтага помніка.

Жыхары Новага Беразова добра ведаюць, што Маршалак быў бацькам не толькі беларусам, але таксама ўкраінцам, літоўцам, яўрэям. Я буду дзякаваць толькі ад імя беларусаў, і пісаць пра заслугі гэтага вялікага чалавека для нашай нацыі. Помнік Маршалку належыцца хацця б толькі за тое, што асвяціў наш дурны народ. Калі толькі паўстала Польшча, тысячы настаўнікаў рушылі вучыць нашых дзетак. Не ўсе, праўда, зразумелі гэтую вялікую асветніцкую ідэю і некаторыя ўцяклі ў лясы. Не хацелі вучыцца тупіцы і гультаі. І толькі паліцыя мела шмат працы, ловячы іх па лясах. Але не ўсе былі гультаямі і большасць за сем гадоў магла аднак закончыць 4 класы, і навучыцца, нават някепска, пісаць і чытаць. Была тады і большая свабода. Калі хто не хацеў доўга вучыцца, мог раней пакінуць школу. Проста дэмакратыя ўжо з дзяцінства.

Ініцыятыва новаберазоўцаў паставіць помнік побач школы зусім трапная і поўнасцю заслугоўвае пахвалы. Але калі ўжо сказалі „а", добра сказаць і „б". Маршалак таксама мае немалыя заслугі ў ахове нашага здароўя. Вядома, што ў тую эпоху людзі былі больш здаровымі, чым цяпер, толькі некаторыя мелі нейкія псіхічныя дзівацтвы, і нешта ім не падабалася. І тут трэба прызнацца, што месцаў у санаторыях ім было дастаткова. Калі камусьці спатрэбілася даўжэйшая рэабілітацыя, мог прабываць у такой санаторыі нават пару гадоў.

Падтрымоўваючы поўнасцю высакародную ідэю новаберазоўцаў, заахвочваю іх памятаць таксама аб гэтых апошніх заслугах Маршалка.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

# ДЗЕЦІ З БЕЛАРУСІ

Прабываючы ў Полчыне-Здрою, пачуў я па кашалінскім радыё, што да Борнага ў гміне Астравіцы 4 кастрычніка прыехалі дзеці з Беларусі. З гарадской управы, дзякуючы ветлівасці Тадэвуша Ацалеўскага, пазваніў я гмінным уладам у Астравіцах і дагаварыўся сустрэцца са Шчэпанам Крушыкам — арганізатарам адпачынку дзетак. 11 кастрычніка прыехаў ён да мяне разам з 11-гадовую вучаніцай Сярэдняй школы н-р 57 у Гомелі — Марынай Афанасьевай. Дзяўчынка, родам з Віцебска, вельмі прыгожа гаворыць па-беларуску, любіць чытаць творы беларускіх пісьменнікаў, асабліва Янку Купалу, Максіма Багдановіча і Якуба Коласа; беларускай мовы вучыць яе настаўніца Алена Максімаўна.

Шчэпан Крушык нарадзіўся ў Чаплях-Андралевічах, за Драгічынам. Зараз абрабляе ён 60 гектараў зямлі, гадуе свіней і 200 кароў. Весці гаспадарку памагаюць яму жонка, нявестка і наймалодшая дачушка, з якой сардэчна пасябравала Марына.

Спытаў я Шчэпана Крушыка, чаму запрашае ён дзяцей з Беларусі. Адказаў ён, што ва ўсім свеце, калі здарыцца атамная аварыя, то іншыя дзяржавы, дзе паветра і ежа чыстыя, забіраюць пацярпеўшых да сябе. У нас ёсць і адно і другое, а мая зямля ляжыць пры возерах Няціна і Пшытан. Вада ў іх чыстая, многа рыбы, навокал прыгожы краявід; дзеці тут адчуваюць сябе вельмі добра. Маю легкавую машыну і вожу іх усюды, так як сёння ў Полчын. Апрача мяне дзве дзяўчынкі ўзяў да сябе мой сусед, некаторых дзяцей узялі іншыя каталіцкія сем'і. Часам бывае цяжка; аднаго разу з запрошаных мною 10 дзяцей ніхто не ўзяў ніводнага і ўсе яны жылі ў мяне. У іншых сем'ях таксама нялёгка, крыху памагае ім Caritas. Запрашаю дзяцей, бо іх люблю. Але не ўсе суседзі аднолькава да мяне са спагадай,— ёсць такія, што глядзяць на мяне крыва. Ад вясны 1990 года запрасіў я 768 дзяцей з 500 сем'яў і атрымаў толькі 5 пісьмаў. Чаму на Беларусі такая абыякавасць? Я ж запрашаю дзетак за свой кошт, а мала хто нават падзякуе!

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

Калі хто захоча напісаць Шчэпану Крушыку, паведамляю яго адрас:

Szczepan Kruszyk
78—506 Ostrowice
wieś Borne
woj. koszalińskie

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 395*

Чытачы „Нівы" ўжо знаёміліся на гэтай старонцы з некаторымі творамі беларускіх эміграцыйных паэтаў (Н. Арсеньнева, М. Сяднёў, А. Салавей, М. Кавыль, У. Клішэвіч, Р. Крушына, Н. Ільяшэвіч). Гэта была прэзентацыя толькі невялічкай часткі той нашай духоўнай спадчыны, якую нельга не ведаць. На жаль, многія яе перлы расцярушаны амаль па ўсіх заходніх краінах, іншыя і таго горш — асталіся неапублікаванымі і, магчыма, не захаваліся, назаўжды для нас страчаны; даходзяць ужо чуткі, што такі і такі быў-пісаў — то ў Аргенціне, то ў Венесуэле.

Зараз я прапаную Вашай увазе, для першага знаёмства, трохі вершаў яшчэ аднаго „неадкрытага" для нас, для беларускай культуры паэта *Янкі Юхнаўца* (нар. у 1921 годзе ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці. Літаратурнай творчасцю пачаў займацца на эміграцыі, „можна лічыць ад 1947 года" — напісаў мне ў лісце. Выдаў кнігі паэзіі: *Шорах моўкнасці*, Нью-Ёрк 1955, *Новая элегія*, Мюнхен 1964, *Калюмбы*, Нью-Ёрк 1967).

Паэзія Янкі Юхнаўца здзіўляе найперш сваёй глыбіннай беларускай моваю, як бы цудадзейнай архаікай, той, якая ўжо сама ад сябе і каларытна-вобразная, і мілагучная, і асацыятыўная. І раптам праз яе мы апыняемся ў ягоным паэтычным свеце — па-чалавечы трагічна асэнсаваным, згушчаным значэннямі, балесна прыгожым новымі перспектывамі.

У адным з яго вершаў жонка гаворыць мужу:

*—Не злуйся! Мне хочацца, каб іншы
мяне абняў.
Я песня з табой недапеяная.*

Горкая доля беларускіх песень замужам на чужыне. Абніміце ж іх з любасцю, сардэчна прытуліце — каб тут дапяваліся!

**ЯН ЧЫКВІН**

---

ЯНКА ЮХНАВЕЦ

## У БАВАРСКАЙ СЬВЯТЫНІ

Мой сьвет сусьветны!
Між роду іншага людзей
падпраўляю благасьці свае,
паглядзець прышоў малебную лікоўнасьць
у чужой сьвятыні.

Што мне сказаць?
Малітваслоў кароткі:
Бог, багаславі мяне —
жывым астаўся.

Нявокмітна азіраю.
Храм аторaны скульптурамі сьвятымі.
Арган музычна сьцеліць грунт
пад пэдасталі іхныя, няўтрачаны
можа ў любові,
а можа незабытай ненавасьці?

Малебнымі сядзяць Баварцы ў сьвятыні.
Не апярэчалася, за што маліліся.
Рукі хрысьцяцца ў гомане малітвы.

Хто мог адсекчы іх?
Каб не чапаць мае наўкругі,
зьнічыць маю малітву:
між імі Чалавекам быць?

Божа, ад сяння шняга паўдня
я навучыўся, як помстай адплаціцца
ад самога сябе.

## ЭСКІЗ

У немасьць ночы
(адыходзіла лета),
зарніцы сьвігалі
у нябёсны схон.

Сьвяцістасьць іхная
забаўна,
але трывожліва
блізіла
вазёрную стынь.

А потым сталася зусім начліва.
Нейкі птах ля возера
засьпяваў.

Псальм
у несапраўдным раю,
падораны усім
між зямных уяў.

## ДАЛЯВА ЛУГОЎ

... вось зноў далява лугоў
між пушчароў.
Быццам
пад гушчынёю летняка
павеістага
пушчары
расступіліся
даць сплыць
зялёным ветразям
лугоў
да віроў рачных,
адно спакмечаныя
сонцам
і сьценямі хмызьнякоў.

Хачу спакмеціць я
рух гэтакі братэрскі.
Захінаю вочы вобмацна
далонямі...

убожнік перад імі я.

## ЭЦЮД

Асьвялыя часіны неастатнія.
Зноў адчыніцца нябёснае вакно.
Золак на ўсходзе
над зямлёй раскінуў
жарыста сатканае валакно.

У час азначаны, бы над магілай,
дзе сьмерць ня зроўняць із жыцьцём,
қасец зусім у днёх пахілы
праз болі траў ішоў ганцом.

Яму бы што? Дзесьць нейкі скворак
у снох мігне успырскам гаю.
У меру боляcьць ёсьць,
а праўдзе — блішчыня касы
ад скраю
закасіла верасьць:
ці будзе вартасна карысьць
ад труду?

Праз болі траў
ішоў касец.

* * *

Вецер аціх. Кволяцца рахмана у небе хмары.
... І надвечар пры сьвятых лампадах,
хоць сэрцы мужныя і пэўнасьць у вясну,
рукой мазолістай перахрысьцім грудзі
і паскардзімся Аднаму.

— Ах, каб ведалі, што гэтак будзем доўга
гарэць нязьнішчанымі і разводзіць жудзь,
пайшлі б пад стрэхі
ельніку і хвояў
кроў сьвежую із вепраў піць,
і, стаміўшыся ў паляўнічых скоках,
на воўчых скурах ля агнёў заснуць.

А перастаркамі, у дзень наш ачырчоны,
з новай насьцярожанасьцяй, мы, як каралі,
гурмой вясёлай (няхай злуюцца жонкі)
Еву іншую Адаму адвялі б, —
каб толькі ведалі, што гэтак будзем доўга
жыць нязьнішчанымі і разводзіць жудзь.

---

БАРЫС РУСКО

## МАЛІТВА

Сонца вялікае
і яго сіла магутная.
Неба распасціраецца за Гарызонт,
а яго сіла за парог нашага ўяўлення.
Але што сонца і неба,
калі ў Тваёй далоні яны хаваюцца.
Воля Твая палоніць час і крышыць бясследна хвалі.
Ты
ў адсутнасці
Прысутны
ў дасканаласці
Недасканалы
ў дасягальным
Недасягальны
ў мёртвым
Жывы.
Уладыка мой, зрабі, каб я ўстаў
і з крыніцы Тваёй чэрпаў сілу ў сваім вандраванні.

## СТАРЫ ДУБ

На згорбленых плечах мех часу,
Аж стогнуць галіны — завароженыя маланкі.
Гісторыя скручаная ў калодны рулон — слупянею.
Падручнікі, што пішуць людзі — жменя апаўшых
жалудоў у пажоўклых лісцях.
Хвала і пашана шэпту незразуметаму і праўдзіваму.
Жук, што злізвае расу з абымшэлых каранёў, разумее
болей, чым аўдавелы Глушак.

## ЯК ЗАГАДАЮЦЬ

Як загадаюць верыць у свае ісціны,
Не ўваходзь у іхнія храмы.
Жрацом можаш быць толькі ўласнага
ўяўлення.
Як загадаюць высмейваць іншых,
прачытай высмейваных кнігу.
Табе дадзены розум — судзі разважна.
Калі загадаюць аплёўваць святасць бацькоў
тваіх, заслані грудзьмі магілы.
Бы дрэвы карэннямі ўрос ты
ў іх свядомасць.
Як загадаюць уміраць за ўзвышанасць,
жыві, сто разоў жыві.
Апроч цябе ёсць іншыя, і толькі іншыя,
але не ты.

---

*Барыс Руско нар. 13.9.1929 г. у Белавежы. Скончыў Варшаўскую палітэхніку. Піша здаўна, але на суд чытачоў адважыўся з'явіцца ўпершыню.*




# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**ЧАСТКА XX**

Дабрабыт як элемент вырашаючы свядомасць людзей наогул не бярэцца пад увагу сучаснымі нашымі палітыкамі. Селянін незалежна ад таго, колькі выслухае сеймавых прамоў ці рэлігійных казанняў, абавязкова ўсё гэта перавядзе на лічбы. Палічыць ён і параўнае, колькі яму плацілі пры Герэку ці Ракоўскім за малако, збожжа ці мяса і колькі бралі ў яго за бензін, штучныя ўгнаенні, вопратку, электрычнасць ці за радыё і тэлевізар. І абавязкова ўсё гэта параўнае з цэнамі пры Мазавецкім, Бялецкім, Альшэўскім і Сухоцкай. Параўнае і вынясе прыгавор. І будзе ён карыстацца толькі гэтым рахункам, а не палітычнай дэкларацыяй. Усякія дэкларацыі маюць для яго значэнне смецця, якое нельга браць ні ў галаву, ні ў сэрца. Прадстаўленую мною вышэй карціну даскaнала ілюструе выказванне 67-гадовага селяніна:

„Ты ведаеш, я цікаўлюся палітыкай. А як жэ! І радзіва слухаю, і ў тэлевізар гляджу. Слухаю і гляджу, але на вус матаю. І мяне ніяка балбатня не зб'е з панталыку. Мне напляваць на тое, што яны балбочуць, што цяпер добрэ, бо німа камунізму, а е штось другое? Я да камунізму ніколі ні маліўся і мне яго ні шкада. Я параўноўваю жыце тое, што было, з тым, што е цяпер і больш ніякае арытметыкі мне ні трэбо. Ну, але і да капіталізму я ні буду маліцца навет тады, калі ўсе біскупы збягуцца і будуць яго ўслаўляць. Я веру алоўкаві. А гэты аловак то ў мяне ў галаве сідзіт. Я знаю, брацішку, што я магу купіці за літэр малака, за кілаграм мяса, за кілаграм збожжа калісь і што магу купіць сягодня. А што я мушу купляці? Я мушу купіці штучны навозы, мушу купіці ропу, мушу купіці адзенне, мушу купіці час ад часу паўлітра водкі або кілаграм следзя. От што я мушу купіці! Ячшэ мушу плаціць за тых балбатуноў з радзіва і тэлевізара. І ты знаеш тое, што сягодня я за свае малако, мясо, збожэ, куплю ў два-тры разы менш чым купляў калісь. Ну то аб чым мы будзем, хлопцы, гаварыці? Аб чым, пытаюся? То на што мне тая ўся сэймава балбатня або тыя казанні? Чы ж я чалавек, каторы жыве без мазгоў? Чы ж я не знаю, колькі гэто будзе два дадаці два або ад трох адняці адзін? І начорта ў гэтай усёй вашабойні ўсе балбочут пра якіясь там камунізмы, калі я колькі ні слухаў Герэка, чы Ракоўскага, чы Ярузэльскаго, то аб ніякіх камунізмах ад іх ні чуў. Праўда, саветы то мне аб камунізме балбаталі ад рана да вечара і ў радзіві і ў тэлевізары. Але ад нашых то я пра ніякія камунізмы ні чуў. То нашто балбатаці сягодня аб тым, чаго ні было! Гэтаго, брацішку я ніяк ні пайму. От, па-моему і ты хібо быў у парціі, але я ні помню, каб ты ше перада мною славіў, або мяне ў яе цягнуў. От так і цяпер быці павінно. Належ сабе да камуністаў або будзь проціў камуністаў, але аб гэтым не балбачы. Ты хібо з імі спатыкаешся, то ты ім вазьмі і выясні гэтэ дзело. Калі яны хочут знішчыць гэты цэлы камунізм, то хай дадут людзям лепшэ жыце. А калі яны будут усё так партачыці, як цяпер партачат, то колькі б яны ні балбаталі, то тых камуністоў будзе ўсё больш і больш. Ячшэ можэ дайсці да таго, што іх будут судзіць за тое, што камуністоў расплодзілі. О, гэто то брацішку будзе камедыя!

Ты знаеш, што я бывало раней як глядзеў на цыбе, як ты гарэш канём, як возіш гной, як косіш касой, то я думаў, што ў цыбе, брацішку, штось у галаве ні парадку. Здавалася б, жыве ў Варшаві, працуе ў універсіцэці, а тут у гаўно лезе. Але цяпер то я, брацішку, ужэ так на гэто ні гляджу. Думаю, што ўсё ж толькі нашэ мужыцке дзело вечнэ і святое, бо яно хлеб дае, а толькі ўсе палітыкі гэто настаяшчэ гаўно. Ты знаеш, што я часом слухаю, слухаю гэтых цэлых палітыкоў, а часом як ні крыкну на ўсю хату: Замаўчы, ё тваю маць, сукін сын, а то абухом цябе ўцісну ў гэты тэлевізар! Надаело, ей Богу. А яны, знаеш, хоць бы дзічкі, лапочут, лапочут, вухом ні ведут. Знаеш, і страшно, і смешно. От камедыя! Ты ім вытлумач, хай дадут лепшэ жыце, то камуна сама здохне, але калі людзі будут ад бяды здыхаць, то камуна будзе жыць і нічым яе не знішчыш".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ПОРЫ ГОДА

На двары дыхаў маразам снежань.

Тры тыдні ляжала ўжо Манька ў пасцелі, утаропіўшы бяздумныя вочы ў столь. Не жыла і не ўмірала. Нешта сціскала за глотку, балела ў грудзях. Ляжала і ўжо дыхала. Адна ў хаце. Непатрэбная нікому.

— Хоць бы ўстала сабе бульбы наварыла, — казалі суседзі, а ёй не хацелася нават варухнуцца. Разы са два ў тыдзень забяжыць дачка, жыве некалькі хат далей. Напаліць у печы, папратае, прынясе штось паесці. Нявестка не заходзіць. Не любіць свякруху. А Манька ад яе нічога і не спадзяецца. Забрала яе любімага сына. Пайшоў у прымы, а меў жа пераняць бацькоўскую гаспадарку...

Так папраўдзе вочы Манькі, калі прыглядзецца ім лепш, не такія ўжо і бяздумныя. Даўно пераваліла ёй за восемдзесят, але памятае ўсё, быццам бы здарылася яно ўчора.

Было калісьці ў гэтай хаце весела і дастатна. Нават да вайны. Зямлі мелі больш за іншых. Гаспадарка была на ўсю вёску, адна з багацейшых. Усё ў іх было, як у людзей. Дзяцей пагадавалі, пажанілі. Ужо і ўнукі вялікія. І што з таго, што дачка часам зойдзе, калі чалавек усё адзін. Пакуль жыў быў стары, было весялей, а цяпер... Дзецям што да яе?! У іх сваіх клопатаў поўна. Добра і так, што хто калі загляне...

Зімой заўсёды так. Не можа сабе Манька знайсці месца. Цяжка ёй; здаецца, што ўжо памірае. Усё баліць, душыць яе і невядома, якую ўзяць таблетку. Во суседу нешта лекар прыпісаў, трэба будзе пазычыць у яго, можа і ёй паможа... Зімой ходзіць яна па вёсцы без мэты, ад аднаго суседа да другога, пакуль не зляжа ў пасцель.

* * *

Калі прыгрэе веснавое сонейка і ўсё зазелянее, Манька ажывае. Таксама, як і прырода. Няхай сабе яна і старая, але яшчэ дыхае! Любіць Манька пахадзіць па палях, дзе былі калісь яе загоны. Няхай сабе ўсё прайшло... А што, паўспамінаць нельга?!

Лета і восень — любімыя Маньчыны поры года. У лесе паяўляюцца ягады, а зараз жа і першыя лісічкі. Ранічкай, ледзь засвітае, спяшаецца яна ў лес. Ідзе па загарадзях праз цэлую вёску і яшчэ мо паўкіламетра. У белай хустачцы на галаве, быццам у свята якое, з кошыкам у руках. У лесе ёй найлепш. Прыляжа, паспявае ўголас да соснаў, прыпомніць маладыя гады.

А лісічак ці ягад назбірае — занясе пад краму і прадасць. Не кожны мае час у гарачую летнюю пару хадзіць па лесе. Іншы дык яшчэ і больш, як прасіла, заплаціць. І ўжо радасць. Ужо чалавек не адчувае сябе недалужным, калі дасць рады дадатковы грош да рэнты дарабіць.

Як толькі пойдуць праўдзіўкі, Манькі па цэлых днях няма ў хаце. Назбірае, пачысціць і занясе адразу ў суседняе, за два кіламетры, мястэчка. Там усё купяць! А як грыбкоў замала будзе, дык яблычак ці грушак можна ўзяць і прадаць. Калі не будзе пад сваімі дрэўцамі — будуць пад суседавымі. Хто б тут усё вызбіраў, усе ж пенсіянеры. Гневацца? Не, гневацца ніхто не будзе.

Памаладзела Манька быццам, выпраставалася. Ніхто б цяпер не падумаў, што ёй ужо столькі гадоў. Але людзі яе не разумеюць.

— Гляньце, ужо і Манька паздаравела! — смяюцца проста ёй у вочы, як толькі рушыць яна ў лес. Не разумеюць, што Манька гэта робіць не з-за хцівасці. Ёй, праўду кажучы, і рэнты зашмат. Усё, што дадаткова заробіць, і так унукам аддасць. Не разумеюць людзі, што гэта ажывае ўсё яе нутро. Яна яшчэ нешта вартая!

Каб не тыя грыбочкі, мо ўжо даўно б сыйшла са свету. А так няма калі задумвацца над праміннем. Манька пра смерць ужо нават і не мысліць. Шчаслівая!

* * *

На двары дыхаў маразам снежань, а старая ляжала адна ў хаце.

Дай Божа Маньцы сілы дачакаць вясны і пахадзіць яшчэ па лесе!

**АДА ЧАЧУГА**





# ПаРНаСіК

**ДЗЯДЗЬКА КВАС - Я ДА ВАС**

\- Прачыталі мы ўсе:
Мар'я Пень і Петручук,
Сідарук і Матвяюк
Дзядзькі Кваса звонкі гук:
"Прыязджайце вы да нас,
Запрашае Дзядзька Квас"...
Дык у ўмове ёсць словы,
Што ляжыць ва ўсей аснове:
"Сціплы ты ў мяне трымайся,
Мардапыса не насі,
Фатаграфій не рабі.
Гусака ты не чапай,
Куранят мне пачытай...
А што дама ў белам была,
Дык яна ў ночны час,
Калісь "ЛАШЧАЎ КУТ" страшыла.
\- Што было, што магло быць,
Усё прайшло-быццам мыць,
Цяпер дамы і хлявы,
Мужыкі і пацукі -
Перамога ўсіх тут нас,
Так жа піша "Дзядзька Квас". -
Усе ён думкі звёў да тога,
Што нічога ўжо навога
Не здарыцца ў Лашчам Куце
Дзе гарцуюць Дзядзькі ўнукі. -
Дама ў белым ужо не прыйдзе,
Гаварылі сабе так-да абы як,
Тама ж дзе калісь страшыла
А цяпер усё... як шыла,
Колюць словы: "Лашчаў Кут".
Нічога не зробіш тут:
У "А Н Т Ы-матэ" адышла,
Бо яё прыйшла пара,
Дык не вечна несці мукі
Паміраць ў Лашчах ад скукі.
Тут "Грабіна" ў Відаве
Дала аб сабе нам знаць,
Трэба было напісаць
Артыкул да "Ніве" - фронду,
Што прыйнялі за легенду.
Так пачалася эпапея
Духаў, лешых, макасеяў. -
Мікалай памеркаваў
Ды пра нешта напісаў,
Сустрэлі яго ўперты гномы,
Высняць пра сноп саломы:
Што маўляў "не так было,
Ды не гэтага нясло..." -
Так легенда расхадзілася,
Не ўсім яна знудзілася. -
Адны дзеўку апісалі,
Як жыўцом яе хавалі,
Рандкі з ёю ўспаміналі...
А цяпер - усё на магілках,
Там за душы чэрці б'юцца,
Пад ведзьмамі мётлы гнуцца...
А тут наша Мар'я Пень
Да Грабіны прыязджала.
Каму ж душу разарвала?!
Рэшту скансэнам назвала. -
Я да вас, Дзядзька Квас:
Не гневайцеся на нас,
Мы вас любім, паважаем,
Дык вам вершыкі складаем.
Будзьце здаровы, Дзядзька Квас,
А мо ўжо астатні раз...
Гэты верш пішу для вас.
Успамінаю добры час.
Жыву як восеньскі ліст,
Усей душой - тапаграфіст.

**Б. Ф. Рудкоўскі**
4.12.1981 г.

*Увага: Анты-матэ, значыць антыматэрыя. Пустата не можа дзейнічаць на існуючы свет. /БР/.*

# КАЛІСЬЦІ БАЯРСКІЯ ВЁСКІ

Жыхарам Бельскага павета было вядома, што ў іх, у павеце, ёсць шляхецкія вёскі. Яшчэ да вайны прыйшлося мне адну такую вёску пабачыць. Гэта былі Рагазы ў гміне Нарва. Нічым асаблівым яны не вылучаліся ў параўнанні з акалічнымі вёскамі, толькі іх ворныя палі мелі паўкруглыя межы, як малады месяц. Але гаспадарылі таксама, як і іх суседзі, і прозвішчы мелі такія самыя. Адны сем'і хадзілі на багаслужбу ў царкву, іншыя ў касцёл, а ўсе гаварылі на адной мове — беларускай (якая ў гэтай ваколіцы адрозніваецца ад літаратурнай).

У Арлянскай гміне мала знаходзіцца прыкмет, на падставе якіх можна было б вылучыць баярскія вёскі. Вось толькі старэйшыя людзі казалі, што там калісьці жылі баяры. У адной з публікаваных прац а. Рыгора Сасны чытаем: „W dobrach orleńskich w roku 1772 istnieją wioski bojarskie Wólka, Torczykały i Koszki. Bojarzy mieszkają tam w pomieszaniu z chłopami".

Але баярскай была таксама і вёска Міклашы, якая цяпер з'яўляецца амаль вуліцай Орлі. І так у 1585 годзе Арлянская валасць перайшла ва ўладанне Радзівілаў. „We włości Orlańskiej (1585) *villa nobilium alias bojarorum* Miklaszowszczyzna, Karpiowszczyzna, Baranowszczyzna oraz *bojar. dict. putne* Piotraszewicze (nob. wyraźne od tamtych). Nb. zaznaczone z innymi wsiami przy przejściu Orli (1585) w dom Radziwiłłów".

Дзе стаялі такія мясцовасці, як Карпёўшчына ці Петрашэвічы, невядома. Няма нават такіх назваў урочышчаў у ваколіцы.

**МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ**



# Зорка
## Старонка для дзяцей

**Дарагая "Зорка"!**

Мы - вучні II класа Пачатковай школы ў Орлі, не ўмеем яшчэ добра чытаць па-беларуску, але ахвотна слухаем, як чытае нам настаўніца. Вельмі любім "Прыгоды мышкі Пік-Пік". Надсылаем Табе, "Зорка", свае малюнкі з мышкаю Пік-Пік. Яшчэ вельмі любім чытаць вершы Віктара Шведа.

**II клас**

## СНЕЖАНЬ

Вось і зіма.

І снежны ўзвей плыве над белаю зямлёю.

Нямала вершаў прысвяцілі паэты гэтай пары года. І ёсць у ёй свае прыцягальныя рысы. Уздоўж платоў мяцеліцы намялі гурбы, суцэльны белы дыван пакрыў лугі і палі, яліны і сосны стаяць у лесе пад загадкавымі белымі шапкамі. Змоўклі птушкі, схаваліся звяры, і толькі ланцужкі слядоў сведчаць аб тым, што жыццё працягваецца. І ўсё ж пры жаданні і ў зімовым лесе можна знайсці які-небудзь ласунак. Калі разгрэбці снег, то сярод зялёнага бруснічніку ўспыхнуць чырвоныя крапелькі ягад. Ляжаць пад снегам, нібы ў халадзільніку, журавіны.

Найбольш пакутуюць зімой ад маразоў лясныя жыхары. Начамі яны зашываюцца хто куды можа. Птушкі шукаюць дуплы ці ціснуцца адна да адной на галінцы, і крайнія, каб пагрэцца, час ад часу залазяць у сярэдзіну. Выратавальнікам усяго жывога ад нясцерпнага холаду служыць снег. Часам розніца тэмператур на паверхні і пад снегам дасягае 20 градусаў. У снезе спяць даўгахвостыя сініцы, рабчыкі і цецерукі. Часам можна нават спужацца, калі знянацку з беласнежнай роўнядзі з шумам вылятае гурт гэтых птушак.

22 снежня - дзень зімовага сонцастаяння. Наступае астранамічная зіма, а потым з кожнымі наступнымі суткамі святла становіцца ўсё больш і больш. Вядома, нельга не выкарыстаць пагодлівыя зімовыя дні для лыжных прагулак. Многія адпраўляюцца ў такія паходы на цэлы дзень. Нядрэнна было б быць упэўненым, што наступны дзень будзе сапраўды пагодлівым. Для гэтага можна выкарыстаць вядомыя прыкметы.

Калі замёрзлыя вокны паволі сталі раставаць, заўтра наступіць пацяпленне. Калі пад нагамі перастаў рыпець снег і вецер падзьмуў з поўдня - таксама чакаецца цяпло.



*Эля Карпюк з Гарадка першы год вывучае беларускую мову.*

**Фота А. Максімюка**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК І ВОЖЫК

Неяк мышка Пік-Пік пасля добрай вячэры сядзела на падваконніку і глядзела на поўню, якую лічыла надзвычай смачным сырам. Раптам краем вока мышка заўважыла нейкі рух унізе, каля елачкі, якая расла пад акном. Пік-Пік зацікавілася і прыгледзелася: сапраўды, каля елачкі бегала круглая істота, прычым увесь час нешта цягала пад елку.

- Нехта робіць прыпасы, - вырашыла мышка. - Пайду, пагляджу, можа і мне што-небудзь перападзе.

І Пік-Пік пабегла на двор да ялінкі. Яшчэ здалёк мышка заўважыла незнаёмую істоту, якая, з нечым белым у лапках, шуснула пад ялінку. Пік-Пік падбегла туды і ўбачыла норку з моцна зачыненымі дзвярамі. Мышка нецярпліва застукала ў іх лапкай.

- Адчыняйце! Я, Пік-Пік, прыйшла ў госці!

Дзверы асцярожна расчыніліся, і ў шчыліну высунуўся чорны носік, а дапытлівыя чорныя вочкі ўважліва агледзелі госцю. Як вядома, мышка Пік-Пік не вылучалася сарамлівасцю, таму адразу адпіхнула гаспадара і ўвалілася ў яго хату. Ай-ай! Гэта быў сапраўдны палац! Вялікі пакой, на падлозе - вялікі дыван моху, сцены абклеены шпалерамі з яркіх часопісных вокладак, а галоўнае - пах добрай ежы: грыбочкаў, арэшкаў...

Між тым гаспадар строга папытаўся:

- Ну і што табе трэба, мыш?

Мышка паглядзела на яго і спалохалася: колькі на ім калючак, ды якія вострыя! Заколе, як што.

- Я - мышка Пік-Пік, жыву ў доме каля вашай ялінкі. Прыйшла пазнаёміцца...

- А я - вожык Туптуп, - сказаў гаспадар. - Толькі знаёміцца я з табой не буду. Я вось цэлую ноч працую, бегаю аж у лес па грыбы, жукоў лаўлю, карэньчыкі выкопваю. Усё здабываю сваёй працай, сумленна. А ты - хатняя мыш, значыць, зладзейка, таму - не будзе ў нас сяброўства.

Разгубілася мышка, пакрыўдзілася:

- Якая я зладзейка? Я сумленна жыву...

- Усе мышы - зладзейкі, - цвёрда сказаў Туптуп. - Вунь ты якая кругленькая, сытая, а адкуль ежу бярэш? У гаспадароў крадзеш!

- Няпраўда! - ледзь не заплакала Пік-Пік. - Я не краду, я проста... ем.

- Ежу за працу атрымліваюць. А ты якую працу выконваеш?

Задумалася мышка: ёй такія пытанні і ў галаву не прыходзілі. А вожык насмешна фыркнуў і сказаў:

- Да пабачэння!

І Пік-Пік нічога не заставалася, як пайсці дадому. Па дарозе мышка ўсё думала пра сваю крыўду. Трэба даказаць Туптупу, што Пік-Пік таксама можа здабываць ежу працай!

Ужо ў норцы мышка цвёрда рашыла назаўтра ж зрабіць што-небудзь незвычайнае, напрыклад, зварыць кашу!

І спакойна заснула.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**




## Вершы Віктара Шведа

**Я САБАКІ НЕ БАЮСЯ!**

Да суседзяў зайшоў Якаў, -
Тут жывуць яго сябры.
Аграмаднага сабаку
Ён убачыў на двары.
- Ты не бойся, ён не ўкусіць,
Хоць і ростам мо за трох.
- Я сабакі не баюся,
Ды баюся... яго блох!

**КОЛЬКІ БОРА МЕЎ ПЯЦЁРАК?**

Запыталі Бору
Пры нейкай нагодзе:
- Колькі меў пяцёрак
У мінулым годзе?
- Адну, мілы Жэня.
- А колькі ж у гэтым?
- Дык на адну меней,
Скажу па сакрэту...

**СТАХ У БІНТАХ**

- Чаму ты, Стах,
У бінтах?
- Як на бяду -
Упаў у ваду!
- І ты вадою
Зрабіў пабоі?
- Зрабіў шмат шкод
Аб цвёрды лёд!

**БАЦЬКОЎСКАЯ ДАПАМОГА**

Прыйшоў тата Наталлі
Да таты Марціна:
- Ці вы падрыхтавалі
Ужо задачы сына?
Прыйшоў я менавіта,
Хоць сорам, не іначай,
Пазычыць сына сшытак
З дамашняю задачай...

**ДЗЕД ПАКІНУЎ СЛЕД**

- Гэта ж не сакрэт:
Дрэвы ля варот
Пасадзіў мой дзед,
Калі меў сем год!
- Хлусіш, мой сынок,
Пасадзіць не ўмеў
Твой малы дзядок
Так вялікіх дрэў.



**САША ЧОРНЫ**

### ПРЫСТАВАЛКА

- А чаму ў мамачкі
На шчоках дзве ямачкі?
- А чаму ў кошкі
Замест ручак - ножкі?
- Чаму шакаладкі
Не растуць, як браткі?
- А чаму ў няні
Валасы ў смятане?
- А чаму ў пташак
Нямашака рубашак?
- А чаму ў жабкі
Нямашака канапкі?
- Таму, што у сыночка
Роцік без замочка!

Пераклад **МІРЫ ЛУКШЫ**

# ЗІНАІДА ДУДЗЮК
# ДУДКА-САМАГУДКА

*Працяг з папярэдняга нумара*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Бяжыць па лесе Кандрат, напалоханы, азірнуцца баіцца, а насустрач яму - Кастусь.

Кандрат. Вой! Вой! Жах! Ваўкалак!
Кастусь. Што здарылася, чалавеча? Хто цябе так напалохаў?
Кандрат. Чараўнік! Пярэварацень!.. Ледзь мяне ў звера не пературыў!
Кастусь. Мо табе гэта толькі падалося?
Кандрат. Каб жа... Трымаў у руцэ дудку, а яна раптам у змяю ператварылася... Жах! Ледзьве ўцёк!
Кастусь. Хто ты? Скуль?
Кандрат. Перш ты скажы пра сябе.
Кастусь. Каваль я са Слабодкі, ды забраў пан маю кузню, а мяне прымушаў мыш пасвіць... Уцёк я ад пана...
Кандрат. А я таксама ўцёк. Мяне пан бізуном біў, вось я і не вытрымаў здзеку.
Кастусь. Ну, Кандрат, будзь мне брат! Пойдзем разам да пана зямлю і волю патрабаваць.
Кандрат. Ці для таго я ад пана ўцякаў, каб зноў да яго вяртацца? Панскія ўладанні за тыдзень не абыдзеш, і скрозь людзі жывуць, але нікому ён яшчэ волю не даў.
Кастусь. Мы ж не з пустымі рукамі пойдзем. У мяне ёсць чароўная дудка, пад яе ўсялякі пан скакаць будзе і нашы жаданні выконваць.
Кандрат. Крый мяне божа, няўжо і ты чараўнік? Не, я лепш пайду далей ад ліха...
Кастусь. Не бойся, ніякі я не чараўнік, а звычайны сялянскі хлопец. А чароўную дудку-самагудку мне Бялун даў, каб я з ёю свой народ вызваліў з няволі. Мая дудка добрая. Хочаш, цябе развяселю?
Кандрат. Давай! *(Кінуў шапку аб зямлю.)*

Зайграў Кастусь на дудцы, пусціўся Кандрат у скокі, яшчэ і прыпеўкі спявае.

Кандрат. Пайду скакаць,
Дома нечага кусаць,
Доля мая горка,
На нагах апоркі.
Ухя! Ухя!
Кастусь. Ну, як?
Кандрат. Такою музыкаю мёртвага падымеш.
Кастусь. Дык ідзеш са мною?
Кандрат. Пайшлі.

Кастусь і Кандрат па-брацку абдымаюцца і ідуць. Кастусь заспяваў песню, Кандрат падпявае.

Кастусь. Народ наш, дбайны хлебасей,
Не бачыў добрай долі,
Ідзем па травах, па расе,
Каб даць народу волю.
Разбойнік *(сочыць за імі з-за дрэва)*. Спяваюць! Кандрат і брат! Ідзіце! Ідзіце! А я следам! Зараз праверу, якія вы браты. Такіх братоў у базарны дзень на пятак тузін купіш! *(Хаваецца.)*

Раптам Кандрат нахіляецца і падымае каліту з грашыма.

Кандрат. Глядзі, Кастусь, нехта грошы згубіў, поўная каліта!
Кастусь. Трэба гаспадара пашукаць.
Кандрат. Дзе ты яго знойдзеш? Што з воза ўпала, тое прапала. За такія грошы можна хату паставіць, зямлю купіць.
Кастусь. Толькі волю не купіш. Жыві, як табе сумленне падказвае, а я пайшоў. (Знікае за дрэвамі.)
Кандрат. Пакрыўдзіўся? А за што? Я ж невінаваты, што мне пашанцавала. Якая каліта тоўсценькая, напэўна, шмат грошай у ёй. Ды куды ж ты, каліта, не ўцякай?.. Вой, да яе нітка прывязана...

З-за кустоў выходзіць разбойнік, цягнучы за нітачку, да якой прывязана каліта.

Разбойнік. Ласы на чужыя каўбасы! Гэта мая каліта!
Кандрат. Вой! Вой! Чараўнік! Ратуйце!
Разбойнік *(хапае Кандрата за палу)*. Пачакай! Не бойся! Я не чараўнік! Я звычайны разбойнік!
Кандрат. Ратуйце! Забіваюць! Гвалт!
Разбойнік. Сціхні! Бо зараз сапраўды стукну!
Кандрат. Маўчу! Маўчу!
Разбойнік. Хочаш быць маім хаўруснікам?
Кандрат. Не, я не змагу...
Разбойнік. Я навучу!
Кандрат. Пусці жывога...
Разбойнік. Грэбуеш, адмаўляешся? А мо ты ў мяне зарабіць хочаш? Я багаты!
Кандрат. Я ніякае работы не баюся. Калі сумленная справа, дык чаму б не зарабіць?
Разбойнік. Слухай мяне ўважліва. Зараз мы з табою дагонім Кастуся, навалімся знянацку. Ты яго патрымаеш, а я дудку адбяру. І тады каліта з грашыма будзе твая! Згода?
Кандрат. Ты за каго мяне прымаеш? Каб я свайго брата прадаў?! Лепш забі мяне!
Разбойнік *(выхоплівае нож)*. І заб'ю!
Кандрат *(вырываецца)*. Кастусь! Кастусь! Ратуй!
Кастусь *(адгукаецца з лесу)*. Іду-у! Ау-у! Ау!
Разбойнік *(прыслухоўваецца)*. Кастусь вяртаецца! Трэба ўцякаць, бо будзе мне на абаранкі! *(Хаваецца ў лесе.)*
Кандрат. Спалохаўся Кастуся! Куды ж ты? Пачакай! Кастусь раскажа табе нешта цікавае!
Разбойнік. Я нецікаўны! Я нецікаўны!
Кастусь *(выходзіць з лесу, набліжаецца да Кандрата)*. Што здарылася? Чаго клікаў?
Кандрат. Гаспадар на грошы знайшоўся. Дык я каліту яму аддаў і дарогу дамоў паказаў.
Кастусь. А чаго мяне клікаў?
Кандрат. Вазьмі мяне з сабою, Кастусь! І прабач за ўсё!
Кастусь. Ты добра падумаў?
Кандрат. Падумаў, больш не перадумаю.
Кастусь. Тады пойдзем... Хаця калі ўжо ісці? Ноч нахапілася, пакуль я ішоў ды вяртаўся. Цемра хоць вока выкалі. Каб у багну часам не ўваліцца.
Кандрат. Дык давай заначуем, бо я й сам намарыўся за дзень.
Кастусь. Так, трэба цяпельца расклясці.
Кандрат *(разводзіць цяпельца)*. Эх, масла згасла, сала растала, выгаладаўся, што сабаку з'еў бы!
Кастусь. Каб каўбаса мела крылы, дык лепшай птушкі ў свеце не было б. Спі, у сне забудзеш, што есці хочацца. А як вячэра прысніцца, дык і павячэраеш.
Кандрат. Лепш ты спі, а я цябе павартую. Я пад ранне люблю паспаць.
Кастусь. Разбудзіш мяне, як вунь тая зорачка загасне.

Кастусь укладваецца каля цяпельца і засынае, а Кандрат варушыць галавешкі, нешта мармыча сабе пад нос. Раптам падымае галаву і бачыць, што на дрэве блішчыць залаты.

Кандрат *(здымае манету)*. Упершыню бачу, каб на бярозе грошы раслі! А вось яшчэ! А вось яшчэ! І тут! І тут! *(Аддаляецца ў лес)*.
Разбойнік *(выходзіць з-за дрэва, за якім хаваўся)*. Лоўка я яго падмануў. А гэты спіць як пшаніцу прадаўшы. Зараз трэба ў Кастуся дудку забраць. Дзе ж ён яе схаваў? А, вось яна! *(Выцягвае дудку ў Кастуся з-за пазухі.)* Вось яна, дудачка-самагудачка! Цяпер увесь свет пад маю дудку заскача! Ох, запаную! Запаную! Эх, разбудзіць бы яго ды прымусіць скакаць пад маю дудку, але ўстрымаюся, пакуль Бялун нічога не ведае. Бо як дазнаецца, дык зноў пературыць дудку ў гадзюку, а я ні з чым застануся. Пабягу хутчэй да пана, захаплю яго маёнтак! А тады ўжо і паны, і мужыкі мне служыць будуць. *(Да гледачоў.)* А вы сядзіце ціха! Ці мо хочаце пад маю дудку паскакаць? Пачакайце! Я яшчэ вярнуся, тады паплачаце і паскачаце! Пачакайце! *(Выбягае.)*

Зацямненне.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Зала ў панскім палацы. На канапе спіць пан. Разбойнік заглядае ў акно.

Разбойнік. У пана вусы ўніз апушчаны, ён у дрэнным настроі. Ну, нічога, зараз я яго развяселю. Як ён пад маю дудачку заскача! Тра-ля-ля! Ха-ха-ха! *(Залазіць праз акно ў пакой.)* Пан! Пан! Прачынайся! *(Трасе за рукаў.)*
Пан. Хто? Што? Як пасмеў, хам?
Разбойнік. Цішэй, паночку, не крычы! Я нешта зараз табе пакажу! У цябе вочы на лоб палезуць. *(Дастае дудку.)*
Пан. Дурань, гэта ж дудка мужыцкая!
Разбойнік. Памыляешся, яснавяльможны, гэта чароўная дудка-самагудка. Вось як зайграю... *(Прыклаў дудку да вуснаў, і зайграла яна, заспявала сама.)*
Голас дудкі. Не на дудцы прыйшоў граць,
Хочаш пана абабраць.
Пан. Што? Вось дык дудка!
Разбойнік. Не слухай яе, паночку, не вер ёй! Гэта Кастусь з Кандратам ішлі цябе абабраць, а я ў іх хітрасцю дудку выкраў і табе прынёс. А пад гэту дудку наскакаўся, думаў, пamру...
Пан. А ты хто такі?
Разбойнік. Разбойнік я з вялікай дарогі.
Пан. Усіх разбойнікаў вешаць трэба!
Разбойнік. Паночку, я ж табе такую рэч раздабыў!
Пан. Добра, за тваю паслугу я цябе ўзнагароджу! Атрымаеш пісьмовы дазвол на рабаванне, гэта значыць, будзеш рабаваць па закону, а палавіну здабычы аддаваць мне.
Разбойнік. Ай, паночку, каб ты ведаў, як мне надакучыла жыць самотна ў лесе і быць разбойнікам, зрабі мяне лепш сваім падпанкам. Верна буду служыць, як сабака, пабачыш.
Пан. Зашмат захацеў!
Разбойнік. А я табе за гэта Кастуся прывяду. Толькі ён на гэтай дудцы граць умее, бо яе яму Бялун даў. Ён над гэту дудку па твайму загаду любога скакаць прымусіць. Ты ж усім светам уладарыць будзеш! А я табе дапамагаць пачну!
Пан. Добра, будзь маім падпанкам, але Кастусь каб тут быў сёння ж!
Разбойнік. Будзе! Будзе як міленькі! Для гэтага трэба Алесю, дзяўчыну яго каханую, у палац з вёскі забраць. А я пайду і скажу яму, што яго Алесю замуж за конюха аддаюць. Ён тут жа і прыбяжыць сюды.
Пан. Добра прыдумаў, так і зробім! Ідзі па Кастуся! А гэта табе падарунак - світа з панскага пляча.
Разбойнік. Дзякую, паночку! Як надзену гэтую світу, дык адразу сябе падпанкам адчую. *(Выходзіць.)*
Пан *(круціць у руках дудку)*. Паспрабую сам зайграць.
Голас дудкі. Ненажэрны люты пан,
Шчэ спазнаеш гнеў сялян!
Пан. Карамольная дудка! Што спявае? У турму яе! На катаргу! Не, ты будзеш спяваць інакш! Ты будзеш мяне ўслаўляць! Увесь свет будзе скакаць пад маю дудку!

Зацямненне.

(Працяг у наступным нумары.)



# МОЙ ЛЁС

– Дзе б я не жыў, то мне заўсёды як не вецер у вочы, то калок у плечы, – гаворыць Антон Антанюк, які нарадзіўся сярод палякаў і ўкраінцаў 4 верасня 1909 года ў Кодні. – Нашай сям'і жылося нагул добра, пакуль у 1914 годзе не прыйшлі царскія салдаты і не выгналі ў глыбіню Расіі. Узялі мы ўсё на фурманкі і паехалі на ўсход. Потым пагрузіліся мы ў вагоны і апынуліся ў Сібіры, над Байкалам. Было мне тады шэсць гадоў і многае мне запамяталася на ўсё жыццё. Жылі мы ў доме Чырвонага Крыжа, які раней быў шпіталем. Як сёння помню цудоўную байкальскую прыроду, прыгожыя летам і зімою краявіды. Жылі мы там два гады, затым пераехалі ў Самарскую губерню. Пачалася рэвалюцыя і грамадскія хваляванні – нават у аддаленых губернях і ўездах. Вырашылі мы вяртацца назад. У Кодэнь прыехалі ў 1918 годзе. Усё тут было спалена і трэба было нанава пачынаць будавацца. З часам паставілі прыгожую хату, абору і клуню. Гаспадарылі мы на сямі гектарах. Я ажаніўся ў 1940 г. з Аннай Васілюк. Нарадзіліся нам тры дочкі.

Вялікае няшчасце сустрэла нас пасля II сусветнай вайны. 17 ліпеня 1947 г. нас перасялілі ў Ольштынскае ваяводства. Тады праводзілася акцыя "В" і рэпрэсіравалася ўкраінскае насельніцтва за дзейнасць УПА. Мы былі праваслаўнымі і нас таксама спасцiглі гэтыя ж рэпрэсіі. Спыніліся мы ў вёсцы Купін /зараз гміна Залева/. Занялі мы дом без акон, адрамантавалі яго і сталі ў ім жыць. Праз пяць гадоў зноў прыйшлося шукаць новы дом, бо гэты спадабаўся нейкаму тагачаснаму чыноўніку. Атрымалі мы другі дом – без акон, дзвярэй і пячэй. Зрабілі рамонт і жылі ў ім да 1989 года. Цяпер жывем у Ольштыне, разам з дачкой, у блёку. Прапалі тры папярэднія мае хаты і не атрымаў я за іх ніякай кампенсацыі. Такі мой лёс. Неяк дажывём з жонкай і ў Ольштыне. Кожную нядзелю ездзім у царкву, памолімся, сустрэнемся са сваімі людзьмі. Гэта адзіная наша радасць.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**





## ШАШЛЫК З БАРАНІНЫ

**Прадукты:** 1 кг бараняй паляндвіцы, 4 баранія ныркі, 2 вялікія цыбуліны; **на марынад:** 4 вялікія цыбуліны, 1 пучок пасечанага кропу, 1 пучок пасечанай зялёнай пятрушкі, 2 змеленыя гваздзікі, 1 лыжачка эстрагону, 50 мл лімоннага соку, 15 мл каньяку, соль, перац; **для ўпрыгожвання:** 2 пучкі маленькай цыбулькі, 4—5 памідораў, нарэзаных скрылёчкамі, 1 пучок пасечанай зялёнай пятрушкі, 1 лімон, нарэзаны тоненькімі скрылёчкамі.

З нырак зняць плёнку, некалькі разоў выпаласкаць у халоднай вадзе, разрэзаць уздоўж напалавіну, спаласнуць ізноў. Кожную палавінку падзяліць яшчэ ўпоперак на дзве часткі. Паляндвіцу ачысціць, памыць, асушыць і парэзаць на 16 аднолькавых кавалкаў. 2 цыбуліны абабраць і нарэзаць скрылёчкамі.

4 цыбуліны абабраць і прапусціць праз мясарубку. Дадаць рэшту прадуктаў, неабходных для марынаду, і старанна перамяшаць.

Мяса і ныркі палажыць у гліняны посуд, перамяшаць з марынадам і паставіць на 4 гадзіны ў халоднае месца.

Кавалкі замарынаванага мяса, нырак і скрылёчкі цыбулі нанізваць напераменку на „шпагі". Пячы на ражне на гарачых вуголлях ці проста абсмажваць з усіх бакоў на разагрэтай патэльні на працягу 15 мінут.

Шашлык падаюць з вялікай колькасцю маладой цыбулькі, пасечанай зялёнай пятрушкі, упрыгожваюць яго таксама скрылёчкамі памідораў і лімонаў.

Замест бараніх нырак можна ўзяць саланіну.

**ГАСПАДЫНЯ**

## НАШЫ СТУПНІ

Зацікавіў мяне допіс Барыслава Рудкоўскага п.з. „Ногі", змешчаны ў „Ніве" ад 1 лістапада г.г. Гэта праўда, што ён напісаў. Дадам і я ад сябе крыху. Прабываючы ў курорце Полчын-Здруй, я штодзённа хадзіў на даклады і ляпей пазнаў, што для чалавека значаць ногі, а асабліва ступні, якія ў нас жа на ўсё жыццё. Варта ім прысвяціць крыху ўвагі.

На штодзень, гэтага хіба не трэба нікому прыпамінаць, каб пазбегнуць празмернай патлівасці ступняў, нельга насіць шкарпэткі з штучных тканяў, трэба насіць толькі шкарпэты з натуральных валокнаў: воўны і бавоўны. Калі дамашнім спосабам не можам справіцца з празмернай патлівасцю, трэба падацца за парадай да спецыяліста. У аптэках цяпер многа сродкаў, якія запабягаюць патлівасці. Калі не хочам мецъ мазалёў (адціскаў), трэба заўсёды насіць выгодны, дастасаваны да нашых ступняў, абутак. Нічога так не дэфармуе нашых пят і пальцаў, як невыгодныя ці цесныя туфлі. Час ад часу трэба зафундаваць ступням адпачынак: мачыць іх у цёплай вадзе з дадаткам змякчаючых соляў. Пасля гэтага значна лягчэй зрабіць педыкюр. Помніць трэба і аб уласцівым абрэзванні ногцяў: трэба абцінаць іх прамавугольна, ніколі кругла, бо закругленыя ногці ўрастаюць у скуру і тады вельмі балюча дакучаюць. Жанчына, калі малюе ногці на нагах, павінна рабіць гэта такім самым лакам як і на руках. Падчас малявання трэба між пальцы ўлажыць палатняны пасачак, каб не пабрудзіць пальцаў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**







Астроне! Маёй старэйшай дачцэ снілася, што я памерла. Яна бачыла маю магілу, якая выглядала так: насыпаны ўзгорак, парослы травой, няма ні помніка, ні крыжа. Яна вельмі плакала, а калі прачнулася, вочы яе былі падпухшыя.

І яшчэ прыснілася маёй дачцэ, быццам яна сама сябе бачыць. Але як? Ідзе і глядзіць на сябе ззаду. Яна высокая, шчуплая, зграбная (у сапраўднасці невысокая). Але найбольшую ўвагу звяртае на валасы — яны светлыя, доўгія да самых пятаў і ў канцы звязаныя. Выглядае гэта цудоўна. Прачнулася — усё прапала! Як шкада, што гэта толькі сон...

**Мар'я**

Мар'я! Сны тваёй старэйшай дачкі някепскія.

Што датычыць першага сну, дык абазначае ён, што ёсць у яе жыцці нейкія цяжкасці, але нешта паспрыяе таму, што выйдзе з цяжкога становішча (магіла). І будзе радасць і поспех (тое, што так плакала).

Другі сон гаворыць за тое, што чакае яе немалы прыбытак. Валасы ў сне прыгожыя, доўгія, буйныя – у ста працэнтах абазначаюць багацце, чаго і жадае тваёй дачцэ

**АСТРОН**




**ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Я атрымліваю па два экземпляры маёй „Нівы". Адзін прыходзіць нармальна, а другі — з двухтыднёвым спазненнем. Прашу спыніць высылку гэтага другога экземпляра і ўзамен даслаць некалькі нумароў „Часопіса".

**Алекс Тэлеш,**
**Кліфтан, ЗША**

**Ад рэдакцыі:** З дасланай Вамі бандэролі вынікае, што „Ніву" тэрмінова пастаўляем мы, рэдакцыя, а спазняецца варшаўская фірма „Рух". Мы не маем дачынення да яе і спыніць пастаўку другога экземпляра не можам. Раім у будучым падпісвацца толькі ў нас, а адмовіцца ад паслугаў „Руху". На „Часопіс" падпісацца трэба аддзельна (інфармацыю вышлем у адной з чарговых бандэроляў).

## КАСЯК НА "Ж" і "З"



**Управа:** 1/ "пасуда" на аброк, 2/ страўнік, 3/ Данута Бічэль, 4/ восьмы сярод дванаццаці, 5/ камячок у вадкасці, 6/ пара ўборкі збожжа.

**Улева:** 7/ пачатак світання, 8/ меншы за вуліцу, 9/ дзіця "касавокага" і доўгавухага, 10/ абраза, 11/ кантакты між людзмі, 12/ афіцыйнае выказванне або пісьмовая просьба.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на разетку-асацыятку з 42 н-ра. **Управа:** карова, балота, Валілы, Дакота, картка, кашаль, рэзеда, калода. **Улева:** каляда, барада, волава, долата, куколь, карыта, рэштка, казуля.

Кніжкі атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч** з Беластока, якіх просім зайсці ў рэдакцыю за ўзнагародамі.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993r. wraz z wysyłką wyniesie 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# НІЎКА

# МАКАТРАЗМЫ

**ВЯТРЫ "БЕЛАВЕЖСКІЯ"**

На курганах дрэмлюць вякі,
Сваю спынілі тут хаду.
Падыме вас, каб суд вяршыць,
Ваяр карэнны М. Гайдук.

**КАПІТАН**

Узяўшы курс, трубіў адно:
- Ідзем, хлопчыкі, на дно.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## СМЕХАТЭРАПІЯ

**Не пашанцавала**

Трагедыяй закончылася рыбалка для васьмідзесяці санкт-пецярбургскіх аматараў падлёднай лоўлі, якія апынуліся на льдзіне, што плыла па Фінскім заліве ў Фінляндыю. Жудасны лёс напаткаў рыбакоў - усе яны былі зняты самалётам-выратавальнікам і дастаўлены дамоў.

**Вучоныя - царкве**

Маскоўскі інстытут біялогіі прапанаваў кіраўніцтву каталіцкай і праваслаўнай цэркваў кампраміс: лічыць, што людзі пайшлі ад Адама і Евы, аднак гэта былі мянушкі малпаў, якія кралі яблыкі ў Бога.

**Рашэнне ААН - закон**

Савет Бяспекі ААН пастанавіў, што цяпер вышэйшай мерай пакарання за парушэнне агульначалавечых нормаў будзе прымусовае ўключэнне вінаватых у састаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

**Пра ўраджайнасць**

Тры ўраджаі яблыкаў збірае грамадзянін Лохаў. Удзень - на свёй дачы, уначы - на суседскай, і ў любы час сутак - у калгасным садзе.

**У парламенце**

На сесіі парламента прыняты ліст да дэпутата Шуняка, які цяпер знаходзіцца ў бальніцы пасля выдалення апендыкса: "Парламент 315 галасамі, супраць 87, жадае вам хуткага выздараўлення".

**З АВІРа паведамляюць**

Днямі ў гарадскі АВІР паступіла заява наступнага зместу: "Мая сям'я складаецца з шасці чалавек і нямецкай аўчаркі Марты. У сувязі з чым і прашу дазволіць нам выезд на пастаяннае месца жыхарства ў Германію - гістарычную радзіму маёй сабакі".

*"Звязда"*




*Мал. А. Гармазы*

## Я СВАЁ ВЕДАЮ!

Было ў мяне тры жонкі, але не зжыўся я з імі. Людзі на мяне, чуў, гавораць: "Стары ёлупень, не ўшанаваў кабет". Нават браты так на мяне гавораць. А я там сваё ведаю. Я - пан у сваім доме ды гаспадарцы! Як я скажу, так мае быць! Няма тут ніякай дыскусіі.

Вось, маеце: мая першая жонка. З багатай сям'і. Хацела дом будаваць новы, хлявы новыя. Я сказаў ёй: "Не!" Грошы ж трэба шанаваць! Няма чаго іх траціць на абы-што. Ну і пайшло!.. Дурнем мяне назвала! Таму, што я чалавек ашчадны, грош трымаю?!

Запрасілі нас на вяселле. А яна: "Сукенку мне новую трэба, кашулю новую табе..." Ну, вядома, і нешта на падарунак маладым.

- Нікуды мы не пойдзем, - кажу я Райцы. - Будзем дома лепш сядзець, чым грошы на дурноту распускаць!

- Значыць, нікуды не пойдзем?

Потым прыехалі яе бацькі і забралі да свае хаты. Потым замуж пайшла за іншага, а я іншую ўзяў. Не скажу, працавітую. Але і гэтай усё хацелася па вяселлях лётаць, па хрэсьбінах! І Марыська мяне кінула. А ідзі, ты, дурная баба, к чортавай матары! Хату пільнуй, калі замуж пайшла, чаго табе цягацца па гасцінах!..

Маці дапамагала мне ў гаспадарцы, але хіба з паўгода да мяне не азывалася, злосная, што ні з кім не ўжывуся.

Так пражыў я дваццаць год. Мама памерлі. Браты былі як чужыя, ніколі не наведалі. Трохі сумна жыць адзінока, ды што зробіш...

Суседка пасватала мне Нінку, удаву. Працавала яна ў горадзе, дзеці дарослыя, жылі аддзельна. Спадабаліся мы сабе, давай жыць разам. Я хацеў, каб яна кінула працу, але ёй толькі тры гады да пенсіі засталіся. Угнявіла мяне; пэўна, яе на працы так моцна кахаюць, што кінуць іх не хоча. А яна: "Пэўна, што мяне там любяць, а на цябе ніхто і глядзець не схоча!" От ляснула!

Прамаўчаў я гэта. Ды давай я ёй добра глядзець на рукі. Дзіўна, усё ж. Калі дома прыбірае, то так пільна глядзіць ва ўсе куткі! Эгэ! Я там сваё ведаю! Думаеш ты, гадаўка, абакрасці мяне і ўцячы?! О не! Кажу Нінцы: "Калі хочаш адысці, то йдзі! Але без ніякіх грошай, ні на што не мей ты надзею!" Ну і пайшла Нінка. А сусед раз запытаўся мяне, чаму зноў жонку выгнаў. А хто ж яе выганяў?.. Расказаў я суседу, што і як. А што, можа, няпраўда? Сама ж пайшла...

- Ах ты , дурань ты бязмозгі! - засмяяўся сусед. - А дзе ж тыя грошы, што іх Нінка мела табе забраць? Хіба вошы, не грошы!

Відаць, не знайду я ўжо такой, што мяне ўшануе!

**АЎРОРА**

**ТОНКАЯ ЗНАЎЦА ПРЫГАЖОСЦІ**

У жаночай кампаніі загаварылі аб прыгажосці і апошняй модзе. Адна дзяўчына сказала:

— А што ў гэтай модзе! Калі чалавек прыгожы, дык на ім усё сядзіць добра.

— Ну, не кажы! — умяшалася другая. — З майго пункту гледжання, лепш мне дзве зморшчыны на шчацэ, чым адна — на панчосе.

**ІВАН ГРАМОВІЧ**

**ІМПАРТГУМАР**

Праходзячы па калідоры атэля, упраўляючы ўбачыў хлопчыка-чысцільшчыка абутку, які сядзеў на падлозе каля дзвярэй гасцінічнага нумара і чысціў боты.

— Чаму ты чысціш боты не ў тым месцы, дзе трэба? — закрычаў упраўляючы.

— Я не магу, сэр, — адказаў хлопчык. — Гэты шатландскі джэнтльмен трымае іх па той бок дзвярэй за шнуркі.

* * *

Спыталі ў габраўца, чаму ён на кожным прыпынку выходзіць з трамвая і заходзіць потым з другой пляцоўкі.

— Каб сказаць кантралёру, калі будзе праверка, што я толькі што сеў.

* * *

Навабранец, які трапіў у форт Дзікс, упершыню пакаштаваў салдацкі рацыён. Паказаўшы на міску, ён спытаў у дзяжурнага:

— А ці ж выбару ў вас няма?

— Ёсць, — пачулася адказ. — Або ты будзеш есці гэты суп, або не.

* * *

— Мама! — плача ў трубку дачка. — Ужо поўнач, а Гастона ўсё яшчэ няма. Ён, напэўна, у нейкай жанчыны...

— Дачуся, навошта адразу падазраваць найгоршае? Можа ён проста трапіў пад машыну.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**



*- З чаго смяешся?..*

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Наймілейшае Сэрцайка! Хачу табе расказаць пра маё жыццё. Я ўжо другі раз замужам, хаця мне няма яшчэ трыццаці.

Першы раз я выйшла вельмі маладая, поўная веры ў жыццё і каханне. Хлопец мой быў цудоўным каханкам і мне здавалася, што так будзе ўсё жыццё: калі мы пажэнімся, дык ён будзе мне яшчэ лепшы, бо ж гэта будзе мой муж.

Жыццё развеяла мае мары. У майго мужа былі вялікія сексуальныя магчымасці, ды і палавы член яго быў надта імпануючы. Адным словам, здаралася нам кахацца і па 4 разы на працягу ночы, а практычна амаль цэлую ноч. Усё ён умеў як трэба, але толькі... ўначы.

Раніцай, калі я ўставала радасная і задаволеная, хаця не заўсёды паспявала выспацца, ён сустракаў мяне брыдкімі словамі, адразу гнаў да працы, не даючы ачухацца. Я спадзявалася па такой ночы чулліўых слоў, мілай гутаркі, спакойнай абмяркоўкі нашых супольных спраў, але ўсё гэта было не так. Ён хадзіў цэлы дзень па гаспадарцы злосны як воўк і чапляўся да мяне за абы-што. Кожны дзень мне здавалася, што ўжо не вытрымаю. Махну рукою на ўсё і пайду куды вочы глядзяць. Вось няхай толькі ночку перасплю, а заўтра адыйду.

Але прыходзіла ноч, і ўсё пачыналася ад пачатку: пацалункі, пяшчоты, доўгія, палкія палавыя зносіны.

Сем гадоў я вытрымала гэтак. І здарыўся такі дзень, што не стала я чакаць ночкі. Збіў мяне да крыві, і я, сабраўшы свае найбольш неабходныя рэчы, выехала ў горад. Дзяцей у нас не было, нічога асаблівага мяне не трымала на гаспадарцы. Ну, можа тое каханне, але што з кахання, калі няма там чалавека... Чалавек найважнейшы!

Я знайшла працу ў горадзе. У мяне была тут цётка, дык я пасялілася ў яе. Муж мой, хаця крычаў і плакаў, каб я не ехала, цяпер як у ваду кануў. Не наведаў ніводнага разу. Маё сэрца часамі ныла па ім, але тады перад вачыма ўсплывалі яго кулакі, чула вульгарныя словы, — і мне горад станавіўся мілейшы.

А праз год мы ўзялі развод, бо ў маім жыцці паявіўся другі мужчына. Гэты ўвасабляў сабою далікатнасць і пашану да жанчыны, спакой і раўнавагу. У яго была свая кватэра, дык я перайшла жыць да яго.

Так, Сэрцайка, быў вельмі мілы, аж занадта. У маім уяўленні ўжо трывала закараніўся вобраз мужчыны моцнага, часам і брутальнага. А гэты быў такім анёлкам, які згаджаўся са мною ва ўсім: рабі як хочаш, усё, што зробіш, будзе добра і г.д. Ну, і ложка... Яго „жаніла" было мініяцюрнае і далікатненькае, як ён сам. І эфекты былі марныя. Ніякага задавальнення, адно раздражняў мяне. Дагэтуль мне здавалася, што найважнейшае, каб чалавек быў добры. А цяпер бачу — што не. Трэба будзе ізноў збірацца да цёткі, праўда?

**Ганка**

Ганка! Такой не дагодзіш. Быў вялікі — дык занадта брутальны. Як стаў мініяцюрны — дык занадта лагодны. Як знайсці залатую сярэдзіну?

Ну, найлепш было б, вядома, каб быў кахлівы, умеркавана вульгарны і моцны, калі трэба адазвацца да жонкі — лагодны і далікатны.

Але дзе яго такога возьмеш? Калі моцны, дык адчувае гэта і выкарыстоўвае; калі слабы — перапрашае, што жыве. Ты кепска трапіла, Ганка. Найлепш быў бы той з залатой сярэдзінкі. Але давядзецца табе ізноў шукаць.

**СЭРЦАЙКА**